**Сяргей Чыгрын**

# Верталёт Бабы-Ягі

## П’есы-казкі для дзяцей

**Гомель**




**2024**

**УДК 821.161.3(476.2)-2**
**ББК 84(4Беи)6-6-411.3**
**Ч 97**

**Чыгрын, С.М.**

Ч 97 Верталёт Бабы-Ягі: п’есы-казкі для дзяцей / Сяргей Чыгрын. – Гомель: Барк, 2024. – 120 с.

**ISBN 978-985-7321-12-4**

У зборнік увайшлі п’есы-казкі для дзяцей цікавага зместу і сучаснага гучання. Яны вучаць быць працавітымі, добрымі, шчырымі і справядлівымі і адначасова высмейваюць невуцтва, гультайства, пляткарства і хцівасць.

П’есы нескладаныя для пастановак і выканання, яны паспяхова могуць быць выкарыстаны ў школах, бібліятэках і тэатрах. Кожны рэжысёр-пастаноўшчык знойдзе ў гэтых тэкстах блізкі яму ідэйна-мастацкі стрыжань, які дазволіць стварыць цэласны, завершаны спектакль і падараваць выканаўцам і юным гледачам радасць творчасці.

**УДК 821.161.3(476.2)-2**
**ББК 84(4Беи)6-6-411.3**

**ISBN 978-985-7321-12-4**

# Верталёт Бабы-Ягі

П'еса-казка для дзяцей у адной дзеі

*Дзеючыя асобы:*

Баба-Яга
Мядзведзь Патапыч
Заяц Буся
Дзяцел Дзіма

*Усе дзеючыя асобы маюць мабільныя тэлефоны.*

*На лясной паляне на пні сядзіць мядзведзь у капелюшы і есць вялікай лыжкай з калоды мёд. У яго добры настрой. Мядзведзь Патапыч частуецца мёдам і спявае песеньку:*

Блукаю па лесе,
А стомы няма,
І мёдам прапахла
Паляна сама.
Лістота густою
Іскрыцца расой
Па-над шчаслівай
Маёй галавой.

*Прыпеў:*

Ой, ой, оёёёй,
Мёд-мядок заўсёды са мной.
Любіць мяне ён, а я – яго,
Ох, ох, о-го-го-го!

Ціха на травы,
На верас і мох
Лягу-прылягу,
Шчаслівы з дарог.
Побач са мною
Калоду не руш.
Мёдам прапах
І мой капялюш.

*Прыпеў:*
Ой, ой, оёёёй,
Мёд-мядок заўсёды са мной.
Любіць мяне ён, а я – яго,
Ох, ох, о-го-го-го!

*Раптам на паляну выбягае спалоханы Заяц Буся. Убачыў Мядзведзя Патапыча і адразу да яго.*

З а я ц Б у с я . Чаго ты тут сядзіш, Патапыч?

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Хачу і сяджу, мёд ем.

З а я ц Б у с я . Які мёд, тут не да мёду!

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Мёд, касавокі, гэта нешта святое. Калі б не было пчол і мёду, то не было б у лесе мядзведзяў. А калі б не было мядзведзяў, то ў лесе не было б парадку і дысцыпліны. Зразумеў, Буся?

З а я ц  Б у с я . Зразумеў, Патапыч! Але тут ёсць больш важныя праблемы, таму не да твайго мёду. Ён мне здаецца ўжо горкім.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Мёд горкім не бывае.

З а я ц  Б у с я . Не бывае, але можа хутка быць… Горкі мёд, уяўляеш?..

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Я не разумею цябе, Буся, можа, што здарылася ў лесе? Чаго ты такі спалоханы? Кажы хутчэй! *(Адкладвае калоду ўбок.)*

З а я ц  Б у с я . Хутка і ты спалохаешся.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Я яшчэ нікога ў гэтым лесе не палохаўся і не баюся нікога і нічога. У лесе я адчуваю сябе ўтульна, вольна і … смачна. *(Паказвае на калоду з мёдам.)* Але сапраўды, што здарылася, Буся? Скажы мне, можа, я дапамагу чым…

З а я ц  Б у с я *(кажа ціха).* Справа ў тым, што я чуў навіну ад сарокі. Яна мне сказала вельмі важную для нашага лесу інфармацыю.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Якую інфармацыю?

З а я ц  Б у с я . Пра Бабу-Ягу.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Я не баюся гэтай старой порхаўкі.

З а я ц  Б у с я . Ты не хваліся сваёй смеласцю. Глядзі, каб са страху не бег па лесе, куды лапы нясуць…

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Нічога не разумею, касавокі. Растлумач, што здарылася? Мяне гэта таксама зацікавіла. Ну, растлумач…

З а я ц  Б у с я . Што тут тлумачыць, бяда ў наш ціхі і спакойны лес прыйшла. Самая сапраўдная бяда.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч *(здзіўлена)*. Якая бяда? Кажы хутчэй.

З а я ц  Б у с я. У Бабы-Ягі з’явілася новая мятла…

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. І што тут за бяда, гэта ж радасць для Бабы-Ягі. Няхай лётае па лесе і на той новай мятле. Яна ж асаблівай шкоды нам не прыносіць.

З а я ц  Б у с я. Ды справа не ў гэтым.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. А ў чым?

З а я ц  Б у с я. У тым, што гэтая мятла не такая, якія ў яе раней былі. Гэтая мятла чарадзейная.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. Мятла чарадзейнай быць не можа. У чым заключаецца тое чарадзейства? А?..

З а я ц  Б у с я. Мятла вельмі дарагая, з рухавіком, са святлом, рычагамі, крэслам, тормазам і са свістам… Нават уявіць ты не зможаш. Вось якая ў яе мятла!..

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч *(здзіўлена)*. Ого! І са свістам? І дзе яна яе здабыла? Цікава ведаць…

З а я ц  Б у с я. У Кітаі. Гэта кітайская мятла, спецыяльна вырабленая для Бабы-Ягі.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. А ў якім гэта лесе знаходзіцца той Кітай?..

З а я ц  Б у с я. Кітай – гэта не лес, Кітай – гэта вялікая краіна *(паказвае рукамі)*, якая знаходзіцца за тысячы кіламетраў ад нашага лесу. Але для Бабулі-Ягулі спецыяльна прывезлі ад іншых кітайскіх Бабуль-Ягуль у падарунак на 100-годдзе з дня яе нараджэння. Сто гадоў нашай Бабцы-Язе, касцянойназе! Уяўляеш, сто гадоў ажно! Мы ніколі не дажывём да яе ўзросту.

Мядзведзь Патапыч. Гэта ўжо цікава! Хочацца паглядзець на тую кітайскую мятлу.

Заяц Буся. А ты не баішся?

Мядзведзь Патапыч. А чаго баяцца яе? Мятла як мятла, толькі з маторам.

*Раптам чуецца гул, свіст, лямант. Мядзведзь Патапыч хапае калоду з мёдам і разам з Зайцам яны хаваюцца за куст.*

Заяц Буся. Гэта, мусіць, Баба-Яга ляціць да нас. Будзе бяда з гэтай мятлою і Бабай-Ягою… Ой, будзе!..

Мядзведзь Патапыч. Не бойся, касавокі, я з табой. Калі што не так, забяром у яе гэтую мятлу і самі будзем лятаць над лесам. *(Смяецца.)*

*Гул набліжаецца. Перапалоханыя Мядзведзь Патапыч з Зайцам Бусяй закрылі вушы і прыціснуліся за кустом да зямлі. У гэты момант на паляну прылятае Баба-Яга на мятле, глушыць матор. Але гэта не мятла, а сапраўдны верталёт.*

Баба-Яга. Ну, што, баязліўцы, а? Спалохаліся маёй мятлы і мяне, так?

*З-за куста асцярожна падымаюцца з зямлі Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся і баязліва, асцярожна, паціху падыходзяць да Бабы-Ягі.*

Мядзведзь Патапыч. І што ты тут прыдумала, Бабуля-Ягуля, на старасці гадоў? Навошта парушаеш лясную цішыню?

Баба-Яга. Патапыч, час мяняецца, я ўжо не тая Бабуля-Ягуля, якой была пяцьдзясят гадоў таму. На старой мятле лятала, баялася, каб не ўпасці, не зачапіцца за галінкі дрэў. Цяпер зусім іншы час. І мятла ў мяне самая сучасная, лепш не бывае. Паглядзіце…

*Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся падыходзяць да сучаснай мятлы, разглядаюць яе. Баба-Яга пачынае іх знаёміць са сваёй мятлой-верталётам.*

Баба-Яга. Вось паглядзіце на маю сучасную мятлу *(Паказвае на мятлу.)* Вось гэта рухавік, гэта тормаз, гэта газ… Гэта далёка не мятла, а сапраўдны верталёт, верталёт-мятла. Вы пра такі і не снілі нават. Ён спецыяльна выпушчаны для мяне, адзін-адзіны на белым свеце. Верталёт для Бабы-Ягі!

Заяц Буся. Спецыяльна для цябе? *(Здзіўляецца.)*

Баба-Яга. Так. Спецыяльна для мяне на адмысловым заводзе ў Кітаі. Самыя лепшыя спецыялісты свету яго рабілі.

Мядзведзь Патапыч. А дзе знаходзіцца той Кітай?

Баба-Яга. Далёка за марамі, акіянамі, лясамі і лугамі, палямі і стэпамі. Вам не зразумець, і ніколі вам там не пабываць. Вам толькі па нашай пушчы бегаць туды-сюды, а да Кітая можна толькі даляцець. А ў вас крылаў няма… Таму не відаць вам Кітая…

Заяц Буся. А ты была?

Баба-Яга. Я за сто гадоў увесь свет аблётала, усё бачыла, і нават Кітай.

Мядзведзь Патапыч *(здзіўлена)*. А ён вялікі, той Кітай?

Баба-Яга. Самы вялікі на свеце, ад зямлі да неба! Такі вялікі, што нам не абляцець і не абысці. Вось такі вялікі! *(Паказвае рукамі ўсхвалявана. Пачынае скакаць каля верталёта і співаць. Усе здзіўлена на яе глядзяць.)*

Верталёцік-верталёт,
Я з табой лячу ў палёт,
Палячу я і ў Кітай,
А ў Кітаі бабцы рай.

*Прыпеў:*
А ну, Зайка, даганяй,
І ты, Мішка, даганяй.
Я лячу адна ў Кітай –
Не дагоніш – даганяй!

Верталёцік-верталёт,
Не чапляйся ты за плот,
Не чапляйся ты за дрэвы,
Я з табою – каралева!

*Прыпеў:*
А ну, Зайка, даганяй,
І ты, Мішка, даганяй.
Я лячу адна ў Кітай –
Не дагоніш – даганяй!

Заяц Буся. Бабуля-Ягуля! Дык вазьмі і нас з сабой у палёт!..

Баба-Яга. Калі б вы былі мае сваякі, то я вас узяла б, але ж вы мне зусім чужыя. Вы далёка не Бабуліны-Ягуліны сваякі. Таму я вас нікуды не буду браць.

Мядзведзь Патапыч. Дзіўная ты, Бабуля-Ягуля! Вельмі дзіўная і хітрая! Мы ж усе з аднаго лесу.

Б а б а - Я г а . Сам ты дзіўны, Патапыч! Не разбіраешся ў сучаснай тэхніцы, дык і маўчы.

З а я ц Б у с я . Быццам ты разбіраешся?

Б а б а - Я г а . Я разбіраюся з маленства. З самых маленькіх гадоў я звязана з тэхнікай. Спачатку лятала на мятле, а цяпер на самай сучаснай тэхніцы – верталёце. А ты вось на чым лятаў, касавокі?

З а я ц Б у с я . Мне нельга лятаць. Я ўмею добра бегаць, ты мяне, старая, не дагоніш і на верталёце!

Баба-Яга *(смяецца).* Цябе? Цябе нават мурашка дагоніць.

З а я ц Б у с я . А цябе дагоніць і перагоніць муха. Яна лятае вельмі хутка.

Б а б а - Я г а . Калі муха стане верталётам, то тады можа і дагоніць. *(Смяецца.)*

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . А калі я стану верталётам, то тады ўсіх абганю. І буду лятаць высока над лесам. І далячу да твайго Кітая. І нават далей. (*Бегае, рукі раскінуўшы, і гудзе як верталёт. Усе смяюцца.*)

З а я ц Б у с я . А калі ты, Патапыч, упадзеш зверху, то так грукнешся, што лес наш задрыжыць ад таго грукату.

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Не ўпаду! Бабуля ж Ягуля не падае!.. Дай, Бабулька-Ягулька, мне хоць раз палятаць на тваім верталёце!

Б а б а - Я г а . Не дам. Ты вельмі цяжкі, пузаты, лахматы, цябе мой верталёт не падніме ў неба.

З а я ц Б у с я . Тады мне дай праехаць. Я зверху хачу ўбачыць усіх сваіх ворагаў, хто хоча мяне напалохаць і з’есці! Такая магчымасць!

Б а б а - Я г а . А ты хто такі, каб я табе давала праехаць? Ты проста заяц-палахлівец. Ты паднімешся ўверх, і ў цябе са страху сэрца разарвецца. Гэта мой верталёт, мой падарунак, таму нікому я не дам на ім пакатацца. Я ў лесе самая прыгожая, маладая, жвавая, таму і атрымала такі дарагі падарунак. А вы ўсе не заслужылі, вы гультаі, абібокі, шкоднікі. *(Смяецца.*)

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Я не зразумеў, хто ў лесе шкоднік?

З а я ц Б у с я . І я не зразумеў...

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч і З а я ц Б у с я (*разам)*. Што ты сказала, Ягуля?!.

*Наступаюць на Бабу-Ягу. Бегаюць за ёй вакол верталёта. Баба-Яга спалохалася і хуценька села ў свой верталёт, завяла яго і паляцела. Здзіўленыя Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся застылі на месцы. Спыніліся...*

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Нахабная стала гэтая Бабуля-Ягуля!

З а я ц Б у с я . Вельмі нахабная. Выхваляецца сваёй мятлой з рухавіком. Патапыч, а давай мы забяром верталёт у Бабы-Ягі?

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Нельга забіраць, ёй жа падаравалі на юбілей. А падарункі, як і іншыя чужыя рэчы, як ты ведаеш, забіраць нельга.

З а я ц Б у с я . Сапраўды, нельга. А я, скажу шчыра, так хачу пакатацца на верталёце Бабулі-Ягулі. Вельмі хачу падняцца ў неба і паглядзець на лес, на дрэвы і палянкі, падняцца бліжэй да сонейка. Гэта ж цікава, праўда, Патапыч?

Мядзведзь Патапыч. Праўда. І мне было б цікава. Надакучыла хадзіць-блукаць па лесе. Хочацца больш волі, святла, вышыні.

Заяц Буся. А давай мы напішам пісьмо ў Кітай, каб і нам прыслалі такія верталёты, як у Бабы-Ягі. Хаця б адзін на дваіх.

Мядзведзь Патапыч. Давай!

Заяц Буся. Але я не ведаю адрас, куды пісаць і каму.

Мядзведзь Патапыч. І я не ведаю.

Заяц Буся. Трэба патэлефанаваць Бабулі-Ягулі і запытаць у яе адрас, куды дасылаць заяўку на набыццё верталёта.

*Заяц дастае мабільны тэлефон, набірае нумар і чуе голас Бабы-Ягі.*

Баба-Яга. Алё!

Заяц Буся. Бабуля-Ягуля, гэта я, Заяц. Хачу ў цябе запытаць адрас, куды нам напісаць пісьмо, каб і нам з Кітая прыслалі верталёт.

Баба-Яга *(смяецца)*. Вам нельга мець такі верталёт, бо вы зваліцеся зверху і я буду вінаватая, што дала вам адрас. Не, не дам.

Заяц Буся. Ды не, дапамажы нам, Бабулька-Ягулька!

Баба-Яга. Добра, я зараз да вас прылячу.

*Заяц хавае тэлефон.*

Мядзведзь Патапыч. Не дасць яна нам адрас. А калі і дасць, то ніхто нам верталёт не прышле. У кітайскіх лясах сваіх мядзведзяў і зайцаў хапае.

*Чуюцца гул і свіст.*
*На паляну зноў прылятае Баба-Яга на верталёце.*

Баба-Яга. Ну, што, прыгажунчыкі, захацелі і вы верталёт, а?

Заяц Буся. Захацелі. Ты ўжо маеш, а чаму нам нельга мець? Мы таксама хочам падняцца ў неба і паглядзець на наш лес з вышыні.

Баба-Яга. Ты хочаш проста палятаць над лесам ці заўсёды мець такі верталёт?

Заяц Буся. Ну, хаця б адзін раз палятаць і пагля-дзець.

Баба-Яга. Добра, я табе дам адзін раз палятаць. Сядай.

*Баба-Яга і Мядзведзь Патапыч трымаюць верталёт*
*і дапамагаюць Зайцу Бусі сесці. Заяц Буся баіцца,*
*але радасна ўсміхаецца.*

Заяц Буся. Я баюся!.. (*Дрыжыць ад страху.*)

Мядзведзь Патапыч. Сядай, сядай, касавокі! Спачатку ты, а потым паспрабую я.

Заяц Буся. Я такі шчаслівы, такі шчаслівы! *(А сам баіцца.)* А можна я ад радасці і шчасця для вас і для ўсіх, хто мяне бачыць і чуе, праспяваю песеньку?

Баба-Яга. Мусіць, ты хочаш праспяваць песеньку ад страху?

Заяц Буся. Ды не, праўда, я вельмі шчаслівы, што, як птушкі, падымуся ў неба і зверху гляну на наш лес.

Мядзведзь Патапыч. Не бойся, касавокі! Усё будзе добра! Спявай! Толькі з натхненнем!

З а я ц  Б у с я *(вылазіць з верталёта. Спявае песеньку і танчыць вакол верталёта)*.

Верталёт, мой верталёт
Адпраўляецца ў палёт,
Ён мяне падніме ў неба
І парадуе, як трэба.

*Прыпеў:*
Хоць хвалююся я чуць,
Неба ўсё ж хачу адчуць,
Пад аблокі заляцець
І на лес наш паглядзець.

Мая мара – верталёт,
Я чакаў яго шмат год,
Не заўважыць нават вока,
Узнімуся як высока.

*Прыпеў:*
Хоць хвалююся я чуць,
Неба ўсё ж хачу адчуць,
Пад аблокі заляцець
І на лес наш паглядзець.

Б а б а - Я г а . Вельмі добрая песенька. Ну, а цяпер сядай, касавокі!

*Заяц Бусяпалахліва і разгублена глядзіць на кнопкі. Баба-Яга дапамагае завесці верталёт, а потым яны разам з мядзведзем пхаюць верталёт за кулісы, дзе ён “узлятае” ў неба разам з Зайцам Бусем.*

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . Ну, паляцеў. І добра. Няхай паглядзіць касавокі на нас з вышыні.

Б а б а - Я г а . Ён вельмі баяўся.

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . І я баюся, але хачу падняцца ў неба, як і Заяц. Я ж таксама наш лес люблю. І ўсіх звяроў, якія жывуць тут разам з намі.

Б а б а - Я г а . Ты, Патапыч, вельмі цяжкі. Мая мятла-верталёт можа і не падніме цябе ў вышыню.

*Раптам чуюцца гул, свіст, трэск і моцнае падзенне.*

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч *(спалохана)*. Гэта што такое, а?

Б а б а - Я г а . Бяда, верталёт мой упаў разам з Бусем. Я пабягу пагляджу, што там здарылася.

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . Бяжы хутчэй, бяжы, трэба ратаваць Зайца.

Б а б а - Я г а . Ды пры чым тут Заяц? Мой верталёт упаў з вышыні. Ой, бяда, ой, бяда… Я пабегла… Вох, мой верталёцік, вох, мой даражэнькі! Я ж цябе так любіла і шанавала!.. *(Пачынае плакаць, выбягае.)*

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . Так добра і ціха было ў лесе. Але ж гэтая Ягуля з’явілася са сваім верталётам-пералётам-недалётам!.. І што ж цяпер будзе, як далей нам жыць у лесе?.. *(Перажывае.)*

*Здалёку чуецца голас Бабы-Ягі:*
*“Патапыч, дапамажы нам, хутчэй!”*

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . О! Пачалося!.. Трэба бегчы дапамагаць!

*Мядзведзь Патапыч выбягае. За кулісамі чуваць галасы Зайца і Бабы-Ягі: “Дапамагай, бо нам цяжка. Давайце ўсе разам!..” На сцэну Заяц Буся, Баба-Яга і Мядзведзь Патапыч выцягваюць верталёт Бабы-Ягі. Ён пашкоджаны.*

Баба-Яга *(прыгаворвае і плача)*. І што я цяпер буду рабіць без свайго верталёціка? І на чым я, старая, буду лятаць? Ай-яй-яй!.. І навошта я табе, касавокі, дазволіла на ім пакатацца?.. Ты ж няўмека-недарэка!.. І як я буду жыць?..

*Плача.*

Мядзведзь Патапыч. Не плач, Ягуля! Адрамантуем мы твой верталёт-пералёт-недалёт!

Баба-Яга. Хто мне яго адрамантуе? Вы ўсе першы раз у жыцці ўбачылі такую сучасную тэхніку.

Заяц Буся. Адрамантуем, Бабуля-Ягуля, не хвалюйся! І я ведаю як!

Баба-Яга і Мядзведзь Патапыч разам. Як? Хто можа адрамантаваць верталёт?

Заяц Буся *(з гонарам)*. Верталёт Бабы-Ягі можа адрамантаваць толькі адзін наш лясны спецыяліст. Ён у гэтым разбіраецца, ён майстар на ўсе рукі.

Баба-Яга. І хто гэта?

Мядзведзь Патапыч. Кажы хутчэй, мне таксама цікава ведаць.

Заяц Буся. Ён усе дрэвы лечыць, дапамагае лясным звярам, ды і сам добра і высока лятае.

Мядзведзь Патапыч. Хто гэта, сава?

Заяц Буся *(пачаў смяяцца)*. Якая сава? Яна толькі ноччу лятае.

Баба-Яга. Ну, няхай ноччу і рамантуе. Галоўнае, каб мой верталёт зноў лёгка заводзіўся і падымаўся ў неба.

Мядзведзь Патапыч. А хто? Можа, бусел?

З а я ц  Б у с я *(зноў смяецца).* Ды не, які бусел. Ён толькі жаб ловіць на балоце.

Б а б а - Я г а . Дык можа гэта сарока?

З а я ц  Б у с я *(зноў смяецца).* Якая сарока-белабока. Яна толькі навіны збірае па лесе, і ўсё, больш нічога не ўмее. Яна – гэта лясное радыё.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Дык можа цар звяроў – леў?

Б а б а - Я г а . Леў жа лётаць не ўмее… Кажы хутчэй, касавокі!..

З а я ц  Б у с я . Гэта… гэта Дзяцел! Вы што, забыліся, што ён добры спецыяліст?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А гэта цікавая ідэя. Трэба патэлефанаваць Дзятлу.

Б а б а - Я г а . Тэлефануй хутчэй, Патапыч!..

*Мядзведзь Патапыч дастае свой мабільны тэлефон і тэлефануе Дзятлу. У трубцы чуваць голас: “Алё! Дзяцел Дзіма слухае вас!”*

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Вітаю цябе, Дзяцел Дзіма!

Г о л а с  Д з я т л а  Д з і м ы . Патапыч, добры дзень! Што гэта ты вырашыў мне патэлефанаваць, ніколі такога не было… Ці ў цябе нешта здарылася?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Прылятай да нас тэрмінова на паляну, мы ўсё раскажам і пакажам. Неабходна твая дапамога! І інструменты захапі!

Г о л а с  Д з я т л а . Добра, лячу!.. (*Выключаецца мабільная сувязь.*)

З а я ц  Б у с я . Ну вось, гэта іншая справа. Дзяцел Дзіма нам павінен дапамагчы. Будзем чакаць.

Б а б а - Я г а . Хутчэй бы. Я так перажываю, так перажываю!..

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч . Не перажывай, вырашым тваю праблему.

*На сцэне з’яўляецца Дзяцел Дзіма*
*са скрынкай розных інструментаў.*

Д з я ц е л   Д з і м а . І што тут у вас за праблемы?

М я д з в е д з ь   П а т а п ы ч *(паказвае на верталёт)*. Ты ведаеш, Дзіма, што гэта?

Д з я ц е л   Д з і м а . Чуў ад сарокі. Ведаю. Гэта верталёт Бабы-Ягі.

З а я ц   Б у с я . Дык вось здарылася бяда, Дзяцел Дзіма. А справа ў тым, што Бабуля-Ягуля дазволіла мне палятаць. А я ж ніколі не лятаў на верталёце. Сеў я ў верталёт, яна мне яго завяла, і я паляцеў. Падчас палёту я зачапіўся за верхавіны дрэў, і верталёт упаў. Ён моцна пашкоджаны і не заводзіцца.

Б а б а - Я г а . Як мне цяпер жыць? Мне ўжо сто гадоў. Я не магу на старой мятле лятаць па лесе, мне на ёй няёмка і страшна, галава кружыцца, старыя ногі мае трымцяць. Я так палюбіла свой верталёцік, што жыць без яго не змагу. Можа, ты, наш майстар, паглядзіш і парамантуеш яго. А?.. *(Абдымае верталёт і цалуе яго.)*

Д з я ц е л   Д з і м а . Калі вы ўсе так просіце, то я абавязкова яго пагляджу, а калі змагу, то адрамантую.

Б а б а - Я г а . Ой, дзякуй, дзякуй табе, Дзятлік Дзіма!

Д з я ц е л   Д з і м а . Рана яшчэ дзякаваць. Можа, у мяне нічога не атрымаецца, я ж першы раз у жыцці буду

рамантаваць верталёт. *(Бярэ інструменты і падыходзіць да верталёта. Да яго падбягае Заяц Буся.)*

З а я ц  Б у с я . Найперш паглядзі рухавік…

Б а б а - Я г а . Як быццам ты ведаеш, што такое рухавік.

З а я ц  Б у с я . Ведаю. Гэта тое, што рухае верталёт.

Д з я ц е л  Д з і м а . Правільна, Зайка. З рухавіка я і пачну агляд.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А каб табе было весела працаваць, мы праспяваем прыпеўкі.

Б а б а - Я г а . Я не буду спяваць, мне цяпер не да спеваў.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Ты не толькі будзеш спяваць, але і скакаць разам з намі. Праўда, касавокі?! Пачынай, Ягуля!

*Загучала музыка, і Баба-Яга пачала спяваць прыпеўку:*

Самалёцік мой ляціць –
Крылы ў яго белыя.
Мы з табою, касавокі,
Дужа-дужа смелыя.

З а я ц  Б у с я :

Каб не сумна нам лятаць
Было ў паднябессі,
Мы з табою, бабулечка,
Праспяваем песні.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч :

А мяне ваш верталёт
Не падніме ў неба,
Вельмі страшны ваш палёт,
Мне яго не трэба.

Баба-Яга:

Ты не бойся вышыні,
Касалапы Мішка.
А баяцца яе станеш –
Будзе табе крышка.

Заяц Буся:

Мішка любіць вельмі мёд,
Пчол ён паважае.
Мішку возьмем у палёт –
Ён па мёд злятае.

Мядзведзь Патапыч:

Ах, чаму не птушкі мы? –
Адкажы мне, Зайка.
Ў неба мы заўжды ўзляталі б
Вечарам і ранкам…

*Баба-Яга, Заяц Буся і Мядзведзь Патапыч, вясёлыя, танцуюць і спяваюць. Іх весялосць спыняе голас Дзятла Дзімы: "Усёёёё!"*

Баба-Яга, Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся разам *(спыняюць скокі. Здзіўлена і спалохана).* Што ўсё?!

Дзяцел Дзіма. Адрамантаваў!

Баба-Яга, Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся разам. Ура! Ура! Ура!..

Баба-Яга. Вялікі дзякуй табе, Дзяцел Дзіма! Я цябе ніколі не забуду. Цяпер я ўжо буду ведаць, хто зможа адрамантаваць маю мятлу-верталёт.

*Баба-Яга сядае ў верталёт, заводзіць яго, разганяецца і знікае.*

З а я ц  Б у с я . Ты мяне выратаваў, Дзяцел Дзіма. Калі б не ты, мяне Баба-Яга забіла б. Яна так перажывала, так хвалявалася, што проста табе не расказаць.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Дзякуй, сапраўды, а то з-за гэтага верталёта ўвесь наш лес захваляваўся, нават дрэвы сталі гаманіць і шумець не так, як заўсёды. Патрывожыла нас усіх Баба-Яга сваім верталётам-недалётам. І хто гэта ёй падарыў такую дзіўную машыну? Ты не ведаеш, Дзяцел Дзіма?

Д з я ц е л  Д з і м а . Не, не ведаю.

З а я ц  Б у с я . Яна ж сказала, што з Кітая ёй прыслалі.

Д з я ц е л  Д з і м а . З Кітая? Дык гэта зусім не кітайскі верталёт…

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч  і З а я ц  Б у с я  р а з а м . Як не кітайскі? Значыць, яна нас усіх падманула, ашукала?.. Так, атрымліваецца?..

Д з я ц е л  Д з і м а . Так. Але ж няхай ужо лятае. Тым больш, што яна старая, нядужая. У яе ногі баляць, цяжка рухацца… Не перажывайце, сябры. Дазвольце з вамі развітацца, калі што трэба, то тэлефануйце мне. Да пабачэння *(развітваецца).*

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч  і З а я ц  Б у с я  р а з а м . Да пабачэння, Дзяцел Дзіма! Да сустрэчы!

*Дзяцел Дзіма знікае. Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся застаюцца на паляне адны.*

З а я ц  Б у с я *(задумліва).* Нешта тут, Патапыч, не тое. Мне не падабаецца гэтая сітуацыя з верталётам і Бабай-Ягой.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . І мне неяк трывожна стала.

*Раптам чуюцца гул і свіст.*
*На паляну зноў прылятае Баба-Яга.*

Мядзведзь Патапыч. Паслухай, Бабуля-Ягуля, мы тут пачулі адну навіну.

Баба-Яга. Якую навіну?

Заяц Буся. Навіна гэта цябе не парадуе.

Баба-Яга. Чаму не парадуе?

Заяц Буся. Бо твой верталёт не быў зроблены ў Кітаі, ён далёка не кітайскі.

Баба-Яга. А чый?

Мядзведзь Патапыч. Вось мы і хочам у цябе запытаць, дзе ты ўзяла чарадзейную мятлу-верталёт?

Баба-Яга. Я вам сказала, дзе ўзяла і хто мне падарыў, больш паўтараць не буду.

*Заводзіць верталёт і пачынае разганяцца.*
*Здалёк пачуўся голас Дзятла Дзімы.*

Дзяцел Дзіма. Сябры, трымайце Бабу-Ягу, яна нас усіх падманула, ашукала.

*Выбягае на паляну з тэлефонам у руках.*
*У гэты час Баба-Яга знікае на верталёце.*

Дзяцел Дзіма. Дзе яна?

Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся разам. Паляцела ўжо на сваім верталёце.

Дзяцел Дзіма. Гэта не яе верталёт.

Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся разам *(здзіўлена)*. Як не яе?

Дзяцел Дзіма. Вось так. Толькі што мне патэлефанавалі з Белавежскай пушчы і сказалі, што Баба-Яга з лясной бальніцы ўкрала верталёт. Які жах!

З а я ц  Б у с я . А яна сказала, што ёй з Кітая на стогадовы юбілей прыслалі кітайскія Бабулі-Ягулі гэты верталёт у падарунак. Вось гэта навіна!..

Д з я ц е л  Д з і м а . Гэта няпраўда. Яна зладзейка-шахрайка, хітрая Баба-Яга.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А навошта лясной бальніцы верталёт?

Д з я ц е л  Д з і м а *(здзіўлена).* Як навошта? Калі раптам нехта захварэе ці здарыцца бяда, доктар і лётчык сядаюць у верталёт і ляцяць туды, дзе знаходзіцца хворы ці пацярпелы. Прызямляюцца і аказваюць неабходную першую медыцынскую дапамогу. Альбо хуценька дастаўляюць хворага ў лясную бальніцу.

З а я ц  Б у с я . Дык у верталёце толькі адно месца.

Д з я ц е л  Д з і м а . Там тры месцы, проста Яга іх адкруціла і схавала ў лесе, пакінула адно пасадачнае месца толькі для сябе.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Вось яно што… Ага!..

З а я ц  Б у с я . І што мы будзем цяпер рабіць?

Д з я ц е л  Д з і м а . Трэба злавіць Бабу-Ягу і забраць верталёт. А пасля вярнуць яго ў лясную бальніцу.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А як мы Бабу-Ягу з верталётам цяпер зловім? Паспрабуй яе злавіць, калі яна ўвесь час у небе.

З а я ц  Б у с я . Нешта трэба такое прыдумаць, каб яна сама сюды прыляцела.

Д з я ц е л  Д з і м а . Трэба паслаць ёй эсэмэску, што ў яе верталёт няспраўны. Яна ж мае мабільнік?

З а я ц  Б у с я . Мае. У яе адной з першых у нашым лесе з'явіўся мабільнік.

Д з я ц е л  Д з і м а . Ого! Крутая стогадовая бабуля!

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Не, так мы яе не падманём. Яна хітрая бабка.

З а я ц  Б у с я . А давайце паспрабуем.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Яна здагадаецца, што гэта ты, Заяц, альбо я прыслаў.

Д з я ц е л  Д з і м а . А давайце я са свайго айфона ёй дашлю паведамленне.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч  і З а я ц  Б у с я  р а з а м . О, правільна. Яна твайго нумара не ведае. ... Вось, запішы.

*Мядзведзь Патапыч паказвае свой мабільнік з тэлефонам Бабы-Ягі, Дзяцел Дзіма перапісвае нумар.*

З а я ц  Б у с я . Запішы ёй галасавое паведамленне ў вайберы, бо яна чытаць не ўмее.

*Мядзведзь і Заяц глядзяць, як Дзяцел Дзіма пачынае запісваць паведамленне.*

Д з я ц е л  Д з і м а *(запісвае паведамленне)*. Паважаная Баба-Яга! Спецыялісты са станцыі абслугоўвання верталётаў Белавежскай пушчы паведамляюць, што ваш верталёт тэрмінова павінен прайсці тэхнічны агляд, інакш можа адбыцца авіякатастрофа. Таму на ім нельга часова лятаць. Паведаміце, дзе мы можам паглядзець ваш верталёт і выпісаць дазвол на палёты. Шчыры дзякуй!

З а я ц  Б у с я . Выдатна, Дзяцел Дзіма!

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. Цудоўна ты прыдумаў, Дзімусік! Адпраўляй ёй гэтае паведамленне.

Д з я ц е л  Д з і м а. Усё, адправіў ёй паведамленне. Будзем чакаць вынікаў.

*Чуецца музыка. Дзятел Дзіма глядзіць на свой тэлефон.*

Д з я ц е л  Д з і м а (*кажа ўсім*). Гэта тэлефануе Баба-Яга.

З а я ц  Б у с я. Размаўляй з ёю.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч. Няхай прылятае сюды, і тут мы яе затрымаем!

Д з я ц е л  Д з і м а *(пачынае размаўляць)*. Алё! Станцыя абслугоўвання верталётаў слухае.

*Чуваць голас Бабы-Ягі.*

Б а б а - Я г а. Добры дзень, станцыя! Гэта Баба-Яга. Я тэлефаную наконт тэхагляду майго верталёта. Мне тэрмінова трэба прайсці гэты тэхагляд, бо я баюся, каб верталёт, і я разам з ім, не ўпаў з вышыні палёту.

Д з я ц е л  Д з і м а. Правільна вы разважаеце, таму нашы майстры ўжо цяпер падрыхтаваліся да агляду вашага верталёта. Прылятайце на самую вялікую паляну ў пушчы, мы будзем чакаць.

Б а б а - Я г а. Добра. Вылятаю, чакайце!

*Чуваць кароткія тэлефонныя гудкі, сувязь спынілася.*

З а я ц  Б у с я. Нам трэба тэрмінова ўсім схавацца, каб нас не ўбачыла Баба-Яга. А калі яна прыляціць сюды, мы яе абкружым і схопім разам з верталётам.

Мядзведзь Патапыч. Яна хітрая, можа ўцячы ад нас, і мы яе не дагонім. Трэба нешта прыдумаць, каб адразу схапіць яе.

Заяц Буся. І што прыдумаць, як яе злавіць і аддаць пад лясны суд?

Мядзведзь Патапыч. Ды не трэба яе судзіць. Трэба проста забраць украдзены верталёт і вярнуць яго ў лясную бальніцу. А яе выгнаць з нашай пушчы. Нельга, каб тут жылі такія зладзейкі.

Дзяцел Дзіма. А давайце мы кожны на сябе адзенем мяшкі, зробім дзірачкі для вачэй, і калі верталёт тут прызямліцца, выйдзем у мяшках, і яна нас адразу не пазнае, спалохаецца. Мы яе абкружым, і гэтыя мяшкі накінем на яе і схопім.

Мядзведзь Патапыч. Ідэя нядрэнная. А калі яна спалохаецца і пачне ўцякаць?

Заяц Буся. Тады мы яе не дагонім.

Дзяцел Дзіма. Галоўнае, забраць верталёт. Гэта наша асноўная задача.

Заяц Буся. І напалохаць Ягулю.

Мядзведзь Патапыч. Хопіць развважаць, давайце пакінем гэтую паляну, бо хутка сюды прыляціць Баба-Яга.

Дзяцел Дзіма. А яшчэ я прапаную напісаць на мяшках адно слова.

Заяц Буся. Якое?

Дзяцел Дзіма. Слова “майстар”.

Мядзведзь Патапыч. Добрая прапанова. Баба-Яга падумае, што на самай справе мы тэхнічныя майстры, умеем рамантаваць і ажыццяўляць тэхагляды верталётаў.

З а я ц  Б у с я . Значыць, так і зробім. Але ж яна чытаць не ўмее.

Д з я ц е л  Д з і м а . Мы прачытаем для яе.

*Усе знікаюць. Чуюцца гул, свіст, лямант.*
*На паляну на верталёце прызямляецца Баба-Яга.*
*Вылазіць з кабіны, аглядаецца.*

Б а б а - Я г а . Вось і я. Дзякуй Богу, прызямлілася паспяхова.

*Баба-Яга вылазіць з верталёта, аглядаецца*
*і сама з сабой пачынае размаўляць.*

Б а б а - Я г а . Нешта я тут нікога не бачу. Цішыня анямелая. А дзе тыя майстры, якія рамантуюць верталёты? Я ўжо прыляцела, а майстроў няма. Дзіўная сітуацыя. Трэба патэлефанаваць. Націснуць на той нумар, скуль мне тэлефанавалі.

*Дастае тэлефон, націскае нумар і тэлефануе Дзятлу Дзіме.*
*Раздаецца голас: “Алё! Я слухаю!”*

Б а б а - Я г а . Гэта майстар па верталётах?

Г о л а с  Д з я т л а  Д з і м ы . Так. Гэта станцыя абслугоўвання верталётаў.

Б а б а - Я г а . Я прыляцела ўжо на паляну, калі вы будзеце аглядаць мой верталёт?

Г о л а с  Д з я т л а  Д з і м ы . Хутка. Пачакайце хвіліну.

Б а б а - Я г а . Добра. Чакаю вас.

*Баба-Яга кладзе тэлефон і заўважае,*
*як на паляну выходзіць адзін мяшок.*

Б а б а - Я г а . Ой, хто гэта і што гэта?

*У мяшку хаваецца Дзяцел Дзіма.*

Дзяцел Дзіма. Чытайце, што тут напісана.

*Баба-Яга імкнецца прачытаць,*
*але яна не ведае літар і не ўмее чытаць.*

Баба-Яга. Я не ўмею чытаць, я не вучылася ў школе.

Дзяцел Дзіма *(падыходзіць бліжэй да Бабы-Ягі).* Вы не ўмееце чытаць? *(Здзіўляецца.)* А як вы кіруеце верталётам?

Баба-Яга. Проста ведаю, дзе знаходзіцца кожная кнопка і дзе які рычаг, вывучыла іх, таму і ўмею лятаць.

Дзяцел Дзіма. Той, хто не вучыўся ў школе, той, хто не ўмее чытаць і пісаць, той, хто не ўмее лічыць…

Баба-Яга *(перабівае Дзятла).* Лічыць я ўмею, лепш за ўсіх.

Дзяцел Дзіма. Калі ласка, палічыце, колькі вакол нас елак, бяроз, дубоў і асін.

Баба-Яга *(пачынае лічыць).* Адзін, два, тры, пяць, шэсць, дзевяць… трынаццаць…

Дзяцел Дзіма. Стоп, стоп, стоп. Хопіць! Зусім няправільна.

Баба-Яга. Усё правільна. Гэта ты неадукаваны майстар па верталётах.

Дзяцел Дзіма. Тады прачытайце, што тут напісана. *(Паказвае на мяшок са словам.)*

Баба-Яга *(глядзіць здзіўлена на слова).* Тут напісана… тут напісана, што ты… дрэнны майстар. І наогул, хто ты такі?

Дзяцел Дзіма. Майстар, які абслугоўвае верталёты.

Баба-Яга. І ты адзін абслугоўваеш верталёты?..

Дзяцел Дзіма. Не, не адзін. Вось яшчэ мае майстры.

*На паляну выходзяць Мядзведзь Патапыч*
*і Заяц Буся ў мяшках.*

Мядзведзь Патапыч і Заяц Буся разам. І мы майстры, дапамагаем абслугоўваць верталёты і самалёты.

Баба-Яга *(спалохана).* І самалёты?

Заяц Буся. І самалёты таксама.

Мядзведзь Патапыч. Усё, што лятае над нашым лесам, мы рамантуем.

Заяц Буся. І нават рамантуем машыны, мапеды і… скутэры… (*Усе смяюцца.*)

*Дзяцел Дзіма, Заяц Буся і Мядзведзь Патапыч*
*у мяшках абкружылі Бабу-Ягу.*

Баба-Яга. А як вы рамантуеце і абслугоўваеце, калі ў вас няма рук?

Дзяцел Дзіма, Заяц Буся і Мядзведзь Патапыч разам. Ёсць! Вось яны!..

*Усе адначасова скідваюць мяшкі, паказваюць рукі,*
*пасля бяруцца за рукі і абкружаюць Бабу-Ягу.*
*Яна хоча вырвацца, але яе не пускаюць.*
*Заяц Буся і Мядзведзь Патапыч кажуць,*
*нібы чытаюць паэтычныя радкі.*

Заяц Буся *(злосна*). Ты – манюка ў нашай пушчы.

Мядзведзь Патапыч. Ты – зладзейка ў нашай пушчы.

Заяц Буся. Мы цябе адсюль не пусцім.

Мядзведзь Патапыч. І ў свет не паляціш…

*Усе разам трымаюць у замкнутым коле Бабу-Ягу.*
*Потым хапаюць яе, і Дзяцел Дзіма*
*вяроўкаю звязвае ёй рукі.*

Б а б а - Я г а *(крычыць).* Гэта несправядліва! Я буду пісаць скаргу ў лясную ахову! Адпусціце мяне, развяжыце!

*Баба-Яга, звязаная, сядзіць каля верталёта.*

Д з я ц е л Д з і м а . Супакойся, Бабуля-Ягуля!

З а я ц Б у с я . Мы цяпер цябе будзем судзіць лясным звярыным і птушыным судом.

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Судзіць за тое, што скрала ў лясной бальніцы верталёт, а нас падманула і сказала, што табе яго прыслалі ў падарунак з Кітая. Навошта ты так зрабіла? А?..

Б а б а - Я г а . Мне так захацелася. Я хацела палятаць над лесам, як жураўлі, высока-высока ў небе…

Д з я ц е л Д з і м а . Не трэба тут мудрагеліць.

З а я ц Б у с я . У цябе ёсць мятла, вось і лятай колькі хочаш.

Б а б а - Я г а . Мне не падабаецца на мятле, сумна на ёй лятаць, баюся ўпасці зверху, я ж зусім старая, няшчасная Бабуля-Ягуля… *(Прыкідваецца, што плача.)*

М я д з в е д з ь П а т а п ы ч . Тады сядзі ў сваёй хатцы на курыных ножках і не перашкаджай жыць і радавацца жыццю ўсім лясным жыхарам.

Б а б а - Я г а . Я ім не перашкаджаю, няхай жывуць.

З а я ц Б у с я . Але ж ты вінаватая, што скрала верталёт, вельмі важны транспарт у нашай пушчы. Ты – зладзейка, махлярка!.. Вось ты хто!

Дзяцел Дзіма. Хопіць з ёй гутарыць. Трэба тэрмінова даставіць верталёт у лясную бальніцу, там яго чакаюць, і ён вельмі патрэбны. Тым больш, што па свеце ходзіць страшная хвароба каранавірус, які можа хутка дабрацца і да нашай пушчы. Таму толькі на верталёце можна даляцець да самых далёкіх лясных палянак, сцяжынак і крыніц, каб аказаць усім неабходную дапамогу. Таму давайце мы спачатку адкоцім яго з гэтай паляны. І тыя два месцы, што Баба-Яга адкруціла, даставім сюды. А там лясныя лётчыкі верталёт забяруць, і ўсё будзе добра.

Мядзведзь Патапыч. А тады разбяромся і з Бабуляй-Ягуляй.

Заяц Буся. Дапамагай, Ягуля! Хопіць ныць, добра хоць, што не разбіла верталёт і сама не загінула.

*Баба-Яга ўстае, звязаная, але бокам дапамагае пхаць верталёт з лясной паляны за куліcы. Калі верталёт схаваўся, усе вярнуліся на паляну. І прывялі Бабу-Ягу.*

Дзяцел Дзіма. Ну, дык што з ёй будзем рабіць? (*Паказвае на Бабу-Ягу.)*

Заяц Буся. Яе трэба за гэты дрэнны ўчынак расстраляць… *(Усміхаецца непрыкметна.)*

Мядзведзь Патапыч. Не, не, яе трэба ўтапіць у самай глыбокай сажалцы, на самае глыбокае дно апусціць.

Баба-Яга. Ой, што вы прыдумалі, як гэта расстраляць, як гэта на дно сажалкі апусціць?! Я баюся такой кары… Ой, баюся!

Заяц Буся. А красці наша лясное нацыянальнае дабро ты не баялася?! Верталёт – гэта наш агульны

лясны скарб. Яго трэба берагчы ўсім лясным звярам і птушкам. Для ўсіх нас берагчы. А ты ўсё зрабіла наадварот.

Мядзведзь Патапыч. Адна лятала над лесам, ганарылася, задавалася… Ух!.. *(Замахнуўся на яе лапай.)*

Баба-Яга. Прабачце, я больш не буду. Я вінаватая. Шчыра вам кажу, я так рабіць больш не буду. Развяжыце мяне.

*Раптам пачуўся гул, свіст, лямант.*

Дзяцел Дзіма. Не бойцеся. Гэта лётчыкі забралі верталёт. Паляцелі яны ў лясную бальніцу.

Заяц Буся. Шчаслівай ім дарогі!

Баба-Яга. Развяжыце мяне, я вас прашу. Я больш нічога дрэннага рабіць не буду. Гэта была памылка майго жыцця. Я каюся… Я вельмі шкадую аб гэтым. Я вінаватая ва ўсім.

Мядзведзь Патапыч. А можа сапраўды даруем ёй усё тое, што яна натварыла тут?

Баба-Яга. Даруйце мне, калі ласка, развяжыце рукі, яны старыя, баляць. І ногі баляць, і ўсё баліць. Нельга ж старых крыўдзіць. Праўду я кажу, Дзяцел Дзіма?

Дзяцел Дзіма. Кажаш праўду. Гэта так! Старых нельга крыўдзіць. Але ж ты зладзейка, а на злодзеі і шапка гарыць.

Баба-Яга. У мяне няма шапкі, я шапкі не крала, у мяне ёсць свая хустка.

*Усе смяюцца.*

Мядзведзь Патапыч. Хто парася ўкраў, таму ўвушшу пішчыць… Так у нашым лесе кажуць.

Б а б а - Я г а . Я парася не крала, навошта мне парася… *(Плача.)*

*Усе зноў рагочуць.*

З а я ц  Б у с я . Можа, ты хочаш і мядзведзя са львом украсці?

Б а б а - Я г а . Не хачу. Я хачу на волю. Развяжыце мяне і адпусціце!

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А можа і праўда, даруем ёй усё гэтае свавольства? Яна больш такія ўчынкі здзяйсняць не будзе. Не будзеш, старая?!

Б а б а - Я г а . Не буду, не буду, шчыра вам усім кажу, я добрая Бабулька-Ягулька.

Д з я ц е л  Д з і м а . Так і быць, першы і апошні раз даруем табе твой несумленны ўчынак.

Б а б а - Я г а *(плача ад радасці)*. Дзякуй вам, дзякуй, што даравалі мне. Я сапраўды паступіла вельмі дрэнна, неабдумана. Клянуся ляснoй цішынёй, я больш так ніколі рабіць не буду. Чужога чапаць не асмелюся. Ды і нельга так рабіць, нельга. Я цяпер зразумела…

З а я ц  Б у с я . Правільна, Ягуля, ты разважаеш. Давай я цябе развяжу.

*Заяц Буся развязвае рукі Бабы-Ягі.*

Б а б а - Я г а *(енчыць)*. Вох, ручкі мае, ручанькі! Ацяклі ўсе, баляць, ныюць. О, ручкі мае, ручанькі!..

Д з я ц е л  Д з і м а . Хопіць, хопіць, Бабуля-Ягуля!

Б а б а - Я г а . І што вы цяпер са мной будзеце рабіць?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Нічога. У лясную турму адвязём… І ўсё!

Б а б а - Я г а . У турму? Мяне? Старую і нядужую?..

З а я ц  Б у с я . Цябе! Каб больш ніколі чужога не брала.

Б а б а - Я г а . Не буду, клянуся сваёй ужо старой мятлой!

Д з я ц е л  Д з і м а . А дзе твая мятла?

Б а б а - Я г а . Няма ўжо ні верталёта, ні мятлы, а магчыма, і хаткі не засталося. І як я буду жыць, дажываць да глыбокай старасці?!

З а я ц  Б у с я . Дык ты ўжо старая, якая старасць?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Цікава, а колькі гадоў жывуць Бабулі-Ягулі?

Д з я ц е л  Д з і м а . Магчыма, тысячу гадоў *(здзекліва смяецца)*.

З а я ц  Б у с я . А можа, і ўсе дзве тысячы гадоў…

Б а б а - Я г а . Не, не, не, столькі я не пражыву…

*Усе смяюцца.*

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Ты ў нашай Белавежскай пушчы будзеш доўгажыхаркай Бабуляй-Ягуляй. Пра цябе напішуць усе лясныя газеты свету. З Інтэрнэту ты сыходзіць не будзеш.

З а я ц  Б у с я . Праглядаў будуць мільёны. Ты станеш самай багатай Бабай-Ягой у свеце. Нават у Кітаі такой не будзе.

*Усе смяюцца.*

Д з я ц е л  Д з і м а . А потым купіш сабе верталёт ці самалёт і будзеш лятаць над лясамі і палямі, гарадамі і вёскамі, марамі і акіянамі.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . А можа, нават паляціш на месяц.

З а я ц  Б у с я . І будзеш першым касманаўтам Бабай-Ягой на свеце… Гэта ж вельмі пачэсна.

Д з я ц е л  Д з і м а . А можа, завітаеш і ў той Кітай!..

*Усе рагочуць.*

Б а б а - Я г а . Ой, хопіць вам здзекавацца са старой Бабы-Ягі. Што ж мне цяпер рабіць, як далей жыць без верталёта, мятлы і хаткі?

Д з я ц е л  Д з і м а . Ды ёсць у цябе хатка, ёсць. Не хвалюйся.

Б а б а - Я г а . Ёсць?! Дзякуй вялікі! Ты мяне парадаваў.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Ды яе ніхто ў цябе і не забіраў. Стаіць, як стаяла. Жыві і радуйся жыццю, старая!

З а я ц  Б у с я . І не рабі лясным жыхарам шкоды. Зразумела?

Б а б а - Я г а . Зразумела. Хопіць ужо пра гэта, адно і тое ж тарабаніце мне пад вуха.

Д з я ц е л  Д з і м а . Я хуценька прыйду, пачакайце тут мяне. *(Выходзіць.)*

З а я ц  Б у с я . І я хутка вярнуся. *(Выбягае.)*

Б а б а - Я г а . А куды яны пайшлі?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Не ведаю, мне самому цікава, што гэта яны задумалі.

Б а б а - Я г а . А можа, яны мяне хочуць арыштаваць?

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Ды каму ты патрэбна, а? Каму?..

Б а б а - Я г а  *(плача).* Нікому. Я адна ўсё жыццё пражыла… Свету не бачыла, пушчы нашай добра не ведаю…

*Выбягае Заяц Буся з мятлой у руках.*

З а я ц  Б у с я  *(крычыць).* Бабуля-Ягуля, я прынёс табе новы падарунак!.. Радуйся хуценька!

Баба-Яга *(здзіўлена)*. А што за падарунак?

Заяц Бурся. Я прынёс ад усіх нас табе новую мятлу. Вось яна, трымай падарунак! (*Уручае Бабе-Язе мятлу. Баба-Яга бярэ яе і разглядае.)*

Баба-Яга. Я гэты падарунак не заслужыла, навошта вы мне яго далі?

Мядзведзь Патапыч. З надзеяй на будучыню, зразумела?..

*Баба-Яга ўсміхнулася, трымаючы ў руках мятлу, па-ранейшаму разглядае яе.*

Баба-Яга. А як я на ёй буду лятаць?

*У гэты момант на паляну выходзіць Дзяцел Дзіма са скрынкаю ў руках. На скрынцы напісана слова "Рухавік".*

Заяц Бурся. Чытай, бабуля, што тут напісана?

Баба-Яга. Ты лепш, даражэнькі, мне прачытай, я без акуляраў не бачу ўжо.

Дзяцел Дзіма. Ты ўсё бачыш, Бабуля-Ягуля, проста не ўмееш чытаць, як і ўсе Бабулі-Ягулі.

Баба-Яга. Так! Не ўмею, шкада. За сто гадоў так і не навучылася…

Мядзведзь Патапыч. А тут напісана адно слова "Ру-ха-вік". *(Звяртаецца да Бабы-Ягі.)* Ведаеш, Ягуля, што такое рухавік?

Баба-Яга. Чула штосьці пра гэта...

Заяц Бурся. Гэта тое, што будзе рухаць тваю новую мятлу і цябе. Вось паглядзіш зараз. Даставай, Дзяцел Дзіма, рухавік.

*Дзяцел Дзіма дастае рухавік і прычапляе да мятлы.*

Д з я ц е л  Д з і м а . Сядай, Бабуля-Ягуля, пакажу, як карыстацца.

Б а б а - Я г а . Ой, я баюся…

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . На верталёце лятаць не баялася, а на мятле з рухавіком баішся. Дзіўная ты! Ці хітрая? Не магу зразумець…

З а я ц  Б у с я . Сядай, Ягуля, я дапамагу.

*Баба-Яга асцярожна сядае на мятлу, а Дзяцел Дзіма паказвае, як трэба карыстацца рухавіком.*

Д з я ц е л  Д з і м а . Як толькі ты села на мятлу, адной рукой трымайся за сам кіёк, а другой рукой за гэтую вяровачку *(паказвае якую)*, а потым пацягні вяровачку – і рухавік завядзецца. Разганяйся, і ты… паляціш.

Б а б а - Я г а . А калі я хачу прызямліцца, то што мне рабіць?

Д з я ц е л  Д з і м а . Ды нічога складанага. Табе толькі трэба будзе сказаць чарадзейныя словы: “Мятла, мятла, пасадзі мяне на зямлю, якую я вельмі люблю”. І націснуць на гэтую кнопку. І мятла паціху пачне апускацца.

М я д з в е д з ь  П а т а п ы ч . Толькі высока не ўзлятай, а то мятла можа цябе не паслухацца. Вышэй вершалін дрэў не ўзнімайся. Зразумела?

Б а б а - Я г а . Зразумела. Дзякуй!

З а я ц  Б у с я . А калі будзеш красці чужое і падманваць лясных жыхароў, то мятла гэтая завязе цябе ў далёкі Кітай і ты ніколі адтуль не вернешся.

Б а б а - Я г а . Абяцаю, што ўсё будзе добра. І я буду самай шчаслівай, добрай, шчырай Бабуляй-Ягуляй!..

Дзяцел Дзіма. А цяпер… час на старт. Заводзь рухавік! Разганяйся і ляці, куды пажадаеш.

Баба-Яга. Палячу дамоў у сваю хатку. Хачу адпачыць ад усяго, ды і вам пара на адпачынак.

Мядзведзь Патапыч. А я яшчэ свой мёд не даеў. Хачу мёду…

Заяц Буся. Разганяйся, Бабуля-Ягуля!

*Баба-Яга заводзіць рухавік, разганяецца і знікае.*

Дзяцел Дзіма. Узляцела добра. Няхай ляціць, старая яна, нядужая ўжо стала. Шкада яе.

Мядзведзь Патапыч. Няхай адпачывае!

Заяц Буся. А давайце на развітанне праспяваем песеньку. Ну, што-небудзь пра шчасце. Каб усе мы разам у нашым лесе, і ўсе дзеткі ў свеце, былі шчаслівымі.

Дзяцел Дзіма і Мядзведзь Патапыч разам. Давайце.

*Гучыць музыка. Заяц Буся, Мядзведзь Патапыч*
*і Дзяцел Дзіма спяваюць песеньку.*

Усе разам:

Хмарка ў неба палящела,
Адчыніла дзверы насцеж.
Ў небе сонейка смяецца –
Рассыпае промні шчасця.

*Прыпеў:*
Шчасце – гэта сонца,
Наша пушча – шчасце,
Жыць нам тут бясконца,
Радасна ўсміхацца.

Хай жывуць у нашым лесе
Ўсе, хто пажадае.
І бяды ніхто ніколі
Хай не сустракае.

*Прыпеў:*
Шчасце – гэта сонца,
Наша пушча – шчасце,
Жыць нам тут бясконца,
Радасна ўсміхацца.

*ЗАСЛОНА*

# Зайкаў скарб

П'еса-казка ў дзвюх дзеях

*Дзеючыя асобы:*

Зайка
Воўк
Ваверка
Мядзведзь
Сава

## Дзея першая

*Па лесе ідзе Зайка і нясе за плячыма вялікі мяшок.*
*Мяшок завязаны і апячатаны сургучнай пячаткай.*
*З аднаго боку мяшка вялікімі літарамі напісана слова "Скарб".*
*Зайка, па ўсім відаць, надта шчаслівы і горды.*

Зайка *(спявае):*

Ціха крочу я па лесе,
І мяшок адзін нясу.
Са сваёй любімай песняй
Не баюся я лісу.

*Прыпеў:*
Песня, песня, песенька –
У глушы лясной.
Мне з табою весела,
А табе – са мной.

Не баюся я ваўкоў,
Шэрых і сярдзітых.
У мяне тут шмат сяброў,
Шчырых, працавітых.

*Прыпеў.*

*І раптам на Зайку ўпала шышка з дрэва.*

З а й к а (*спалохана*). Ой! Што гэта?

В а в ё р к а *(нечакана з'явілася).* Не бойся, Зайка, гэта я – Вавёрка.

З а й к а . Ну ў цябе і жартачкі! Так моцна напалохала мяне, аж лапы трасуцца!

В а в ё р к а . Прабач, я не хацела… Проста шышку не ўтрымала ў лапках. І яна ўпала. Я снедала...

З а й к а . Фу! Што з табой зробіш! Дарую. Але наступны раз будзь больш асцярожнай. А каб па галаве мне папала твая шышка? Тады ў мяне свая шышка вырасла б…

В а в ё р к а . Буду, буду, Зайка, больш асцярожнай. *(Падняла шышку.)*

З а й к а . Ну, а я пайшоў далей… Няма калі доўга размаўляць з табой. Снедай, снедай. Табе жадаю смачна есці! А мне сёння не да ежы.

В а в ё р к а . А чаму ж так?

З а й к а . Менавіта так.

В а в ё р к а (*зацікаўлена*). А… а куды ты так спяшаешся?

З а й к а . Сакрэт. Вялікі сакрэт.

В а в ё р к а . У цябе нейкая важная справа ёсць з сакрэтам?

З а й к а . Яшчэ якая важная! Вельмі важная!

В а в ё р к а . Ну, мне хоць сказаць можаш?

З а й к а . Не. І табе не магу. Бо справа вельмі важная і сапраўды сакрэтная.

В а в ё р к а . А яшчэ сябрук называецца! Усё, не буду з табой сябраваць.

З а й к а . Я магу сказаць… схлусіць… але не магу… я ж не хлус.

В а в ё р к а . Я цябе добра ведаю. Вядома ж, ты не хлус. А шчыры Зайка.

З а й к а . Якраз цяпер той выпадак, калі мне нельга гаварыць праўду.

В а в ё р к а . Нікому-нікому?

З а й к а . Так. Нікому-нікому.

В а в ё р к а . Нават мне?

З а й к а . Я ж сказаў: нікому. Разумееш?! І ты тут не выключэнне.

В а в ё р к а . Ой! Ой! Так ужо і нікому…

З а й к а . Мне адзін заяц-мудрэц даверыў гэты скарб. Скарб – наша багацце. Яго чакаюць усе зайчаняты, і калі яны будуць карыстацца гэтым скарбам, то таксама стануць мудрымі і вельмі шчаслівымі. Ім усе пазайздросцяць.

В а в ё р к а . Вельмі цікава. І што ж гэта за скарб такі?

З а й к а . Зразумей адно, што скарбамі не раскідваюцца налева і направа. Скарб – гэта скарб… Разумееш?! Скааааарб… Прабач, але я спяшаюся.

В а в ё р к а . А мяшок у цябе на плячах прыгожы... і, сапраўды… як і ты. *(Ліслíва.)* І ўсё ж такі, што гэта ты нясеш, а, Зайка? Мне так цікава!.. Так хочацца ведаць… Ну, Зайка! Ну, харошы мой! Калі ласка, скажы…

Ты мяне так зацікавіў, што я проста не магу!.. Я не адстану ад цябе…

З а й к а (*азіраецца па баках).* Калі знаць хочаш, то скажу адно, я выконваю вельмі важнае і адказнае заданне. На ўзроўні нашай лясной дзяржавы.

В а в ё р к а *(яшчэ больш зацікавілася).* Ого! Во як! На ўзроўні нашай лясной… дзяр-жа-вы!?

З а й к а . А ты думала! Мне абы-што не давераць. Зразумей гэта!

В а в ё р к а . Ды гэта я ведаю. Ты яшчэ той Заяц! О! Смелы, адважны… Я ганаруся табой!

З а й к а (*горда).* Можаш мне пра гэта не напамінаць.

В а в ё р к а . Так і не скажаш, значыць, што ў тваім меху? А? *(Абмацвае мех, Зайка ўхіляецца.)*

З а й к а . Ну-ну! Не лапаць! Не чапаць! Гэта мой мех. Сакрэтны мех.

В а в ё р к а . Ці такі ўжо і сапраўды вялікі тут сакрэт? Не магу зразумець.

З а й к а . Большых сакрэтаў на свеце не бывае… чым мой мех і тое, што ў меху.

В а в ё р к а . Усё, я з табой не сябрую! *(Пакрыўдзілася.)*

З а й к а . Добра, так і быць: табе адной усё ж прызнаюся. Угаварыла ты мяне!

В а в ё р к а *(радасна).* Так-так, слухаю. Кажы! Ну, хутчэй, хутчэй! Мне вельмі хочацца даведацца.

З а й к а . Але абяцай, што нікому не скажаш.

В а в ё р к а . Абяцаю! Не скажу, не хвалюйся.

З а й к а . Нікому-нікому, зразумела?!

В а в ё р к а . Нікому-нікому не скажу.

З а й к а (*паклікаў Вавёрку бліжэй да сябе, шэпча ёй на вуха)*. Усё зразумела, што я сказаў?

В а в ё р к а . Канешне, скарб ты нясеш і сапраўды бясцэнны. Не кожнаму можна даверыць такое важнае заданне.

З а й к а . А ты думала!.. Ну, бывай, Вавёрачка. Я пайшоў.

В а в ё р к а . Пачакай! Пачакай! Чаго ты так імчышся, спяшаешся?..

З а й к а . Слухаю. Што такое?..

В а в ё р к а . Скажы, калі ласка, а нам, вавёркам, дзе раздабыць такі скарб? Не падкажаш? Ён і для нас быў бы вельмі карысным. Ці так?

З а й к а *(разважліва)*. Так-так. Відаць, і ў вас недзе жыве вавёрка-мудрэц. Лес вялікі. Пашукаць трэба.

В а в ё р к а . Дапаможаш мне? А?..

З а й к а . Абавязкова! Але спачатку мне трэба зберагчы свой скарб. Вось гэты. *(Паказвае на мех.)* Зразумела?

В а в ё р к а . Так, так. Зразумела.

З а й к а . Не хвалюйся. Потым пашукаем і твой скарб разам.

В а в ё р к а . Вось дзякуй табе, Зайка.

З а й к а . Буду рады дапамагчы.

В а в ё р к а . Да сустрэчы! Не знікай толькі!

З а й к а . Убачымся. Мне галоўнае – скарб данесці да зайчанятак.

В а в ё р к а . Вяртайся, Зайка!

З а й к а . Чакай мяне, Вавёрачка!

*Усе разыходзяцца. Паляна апусцела. З’яўляецца Воўк.*

В о ў к *(пытаецца ў дзяцей)*. Чулі? Бачылі? Што ж, цікава, за такі скарб у лапавухага? Мне, галоднаму Ваўку, гэта асабліва цікава. Можа, там і для мяне тлусценькае што ёсць, а? Было вашым, стане нашым!

*Воўк спявае песеньку:*

Я па лесе пахажу
І пад кусцік пагляджу,
Усіх убачу і знайду –
Нікуды больш не пайду.

*Прыпеў:*
Цап-лап, цап-лап,
Забяру я гэты скарб,
Забяру яго хутчэй –
Стане на душы лягчэй!

Шэры, шэры, шэры –
Аднаму сабе я веру,
Спадзяюся на сябе
Ў радасці ды і ў журбе.

*Прыпеў:*
Цап-лап, цап-лап,
Забяру я гэты скарб,
Забяру яго хутчэй –
Стане на душы лягчэй!

В о ў к . Ну, за справу! А то не даганю яшчэ, чаго добрага, касавокага! Уцячэ са сваім скарбам. *(Знікае.)*

*З’яўляецца Вавёрка.*

В а в ё р к а . Воўк? Так, так, ён аб’явіўся. Значыць, над Зайкам збіраюцца хмары. Трэба ратаваць Зайкаў скарб і самога Зайку! Гэта ў які бок ён пайшоў? *(Пытаецца ў гледачоў. Усе паказваюць, куды.)* Туды? Ага, пабегла я, бо сяброў у бядзе нельга пакідаць! Ці праўду я кажу? *(Знікае).*

Д з е ц і  а д к а з в а ю ц ь: “Праўду!”

З а й к а *(ідзе далей па лесе, спявае):*

Не баюся я ваўкоў,
Шэрых і сярдзітых.
У мяне тут шмат сяброў,
Шчырых, працавітых.

*Прыпеў:*
Песня, песня, песенька –
У глушы лясной.
Мне з табою весела,
А табе – са мной.

В о ў к *(выглядваючы з-за кусціка).* Пачакайце, пачакайце! Ці мне гэта здалося? *(Патрос галавой.)* Ён што, і мяне не баіцца?! Усе чулі? Так абразіць мяне ў сваёй песні, самага смелага ў гэтым лесе Ваўка! Не дарую нікому такога! А тым больш Зайцу!.. *(Выходзіць перад Зайкам.)* Стой! Лапы ўгору, касавокі! Я сказаў: лапы ўгору!

З а й к а *(спалохана).* Ой, Воўк! *(Падняў лапкі.)*

В о ў к . Воўк, Воўк! Што, не чакаў? І што гэта ты там спяваеш у сваёй песні *(перадражнівае):* “Не баюся я ваўкоў, шэрых і сярдзітых…” Бач ты яго!

З а й к а . Не-не, не… я пра іншых ваўкоў, я не пра цябе спяваў.

В о ў к . Дык вось ён я, тут як тут. Прашу любіць і паважаць. Ну, і што ты нясеш такое ў меху, што ажно прыгнуў ён цябе да зямлі, бедненькага, шэранькага, ледзь жывога? Які цяжар нясеш, а? Хутчэй прызнавайся! Што ў меху?

З а й к а . Не магу… я не магу… не магу сказаць.

В о ў к . Што ты не можаш, лапавухі?

З а й к а *(гучна).* Я скарб, скарб нясу!

В о ў к . Скарб?!

З а й к а . Ага! Скарб, скарб!

В о ў к . Ану давай паказвай мне свой скарб! Ды хутчэй, хутчэй, касавокі! *(Працягнуў лапу і адвярнуўся.)* Чакаю! Ты што – глухі?

З а й к а . Я ж табе сказаў, што не магу паказаць.

В о ў к . Бач ты, які нахабнік! Ты як з ваўком размаўляеш, Заяц? Не забывай, з кім, маляўка! З Ваўком!.. У-лю-лю-лю!.. Паказвай!.. *(Наступае на Зайку, Зайка адыходзіць…)*

З а й к а . Мяне чакаюць…

В о ў к . А мяне, думаеш, не чакаюць галодныя ваўчаняты? А?..

З а й к а . А мяне зайчаняты… зайчаняты чакаюць.

В о ў к . Твае і пацярпець могуць. А калі такія галодныя ўжо, то і дрэўца пагрызці могуць. А нам, ваўкам, мяса патрэбна, каўбаска, вяндлінка, зайчаціна… Чуў?

З а й к а *(спалохана, але смела).* Чуў, здаецца… не глухі.

В о ў к . Яму здаецца! Ды што я з табой тут байкі баю! Што гэта я з табой цацкаюся?! Давай сюды свой скарб! (*Вырваў мех, узваліў на плечы.)* Там разбяромся! Ну, бывай, Заяц! Цябе пашкадую, хапаць і есці не буду. А скарб забяру. Было вашым, стала нашым! Схаваюся далей ад чужых вачэй, а там і са скарбам гэтым разбяруся. Пашанцавала мне дык пашанцавала! Хоць раз у жыцці! Г-г-гы!.. (*Знікае.)*

З а й к а *(усхліпвае).* І навошта я спяваў? Калі б не спяваў, то Воўк мяне б і не заўважыў, мабыць. І тады данёс бы свой скарб… І што я цяпер скажу зайцу-мудрацу, давер якога не апраўдаў? Што я скажу сваім зайчанятам?.. Сам вінаваты… Навошта, ну навошта я спяваў? Але як без песні жыць, скажыце?

*Зайка спявае сумную песню:*

Зайку без песні жыць немагчыма,
Жыццё праляціць маё міма, міма.
Зайку без песні, як без капусты,
Будзе самотна, горка і пуста.

*Прыпеў:*
Ой, ой, ой, што гэта са мной,
Ой, ой, ой, з тайнай сваёй
Ці дабяруся я да дзяцей,
Каб закрычалі дружна: о’кэй!

Зайку без песні, як без вушэй,
Я не пачую ваўкоў і мышэй.

Хто дзе скрабецца, зусім не пачую,
Хоць пад кустамі часта начую.

*Прыпеў:*
Ой, ой, ой, што гэта са мной,
Ой, ой, ой, з тайнай сваёй
Ці дабяруся я да дзяцей,
Каб закрычалі дружна: о’кэй!

*З’яўляецца Вавёрка.*

В а в ё р к а *(з жалем)*. Спазнілася я, мабыць?

З а й к а (*ледзьве не плача*). Няма, няма майго скарбу. І што мне цяпер рабіць? Воўк забраў скарб.

В а в ё р к а . Я вельмі спяшалася да цябе, Зайка. Але спазнілася, як я бачу.

З а й к а . Правароніў скарб. І навошта я спяваў?! Ці не дурань? Выдаў толькі сам сябе.

В а в ё р к а . Досыць. Хопіць. Не румзай.

З а й к а . Як жа мне не румзаць, калі такое гора? Без скарбу застаўся.

В а в ё р к а . Разумею. Але слязамі бядзе не дапаможаш. Трэба ратаваць скарб.

З а й к а . Лёгка сказаць… ратаваць. Але як яго ратаваць?

В а в ё р к а . Вядома ж, Ваўка мы не пераможам. Ён дужы, хітры, галодны заўсёды.

З а й к а . Не падужаем. Не пераможам!

В а в ё р к а . Я б яму! Я б яму! Ух, нягоднік! Як так можна – забраць Зайкаў скарб! Гэта ж твой скарб, а не яго.

*На паляне нечакана з’яўляецца Мядзведзь.*

М я д з в е д з ь . Што тут у вас здарылася, сябры мае?

В а в ё р к а . Воўк нас пакрыўдзіў. Як заўсёды, Воўк.

З а й к а . Мой скарб забраў.

М я д з в е д з ь . Скарб?

З а й к а . Скарб.

В а в ё р к а . Бясцэнны! Ух, паразіт!..

М я д з в е д з ь . Вушы б яму паадрываць, Ваўку таму.

В а в ё р к а . Выручай нас, Мядзведзік!

З а й к а . Ага. Заступіся, калі ласка, калі зможаш.

В а в ё р к а . Больш няма каму, усе яго баяцца.

З а й к а . Я табе тады ўсё жыццё дзякаваць буду.

М я д з в е д з ь . Давядзецца заступіцца і абараніць вас. Бо вам адным з Ваўком не справіцца.

В а в ё р к а . Вось дзякуй табе, Мядзведзік!

М я д з в е д з ь . Дзякаваць потым будзеце. Яшчэ рана. Спярша трэба справу зрабіць.

*Мядзведзь пачынае спяваць песню:*

Справу зробім ад душы,
Каб бяду не варушыць,
Каб блукаць на золку росным
Ля бяроз, асін і соснаў.

*Прыпеў:*

Я – вясёлы мядзведзь,
Не люблю адзін сядзець,
А з сябрамі быць хачу –
Радасць светлую адчуць.

Чую птушак галасы,
Хай красуюцца лясы.
І звяры ў лясах жывуць –
Сумаваць нам не даюць.

*Прыпеў:*
Я – вясёлы мядзведзь,
Не люблю адзін сядзець,
А з сябрамі быць хачу –
Радасць светлую адчуць.

Мядзведзь. Пайшлі хуценька.

*Знікаюць. Выходзіць Воўк і шукае месца, дзе б яму нарэшце спыніцца і паглядзець, што за скарб ён адабраў у Зайкі. Карціць жа.*

Воўк. Ага! Тут, здаецца, ціха? Хай паспрабуюць мяне знайсці. Зараз, зараз паглядзім, што там… (*Засунуў лапу ў мех, але тое, што ён там намацаў, яго не задаволіла, і таму ён пачынае больш энергічна шураваць у меху. Нарэшце вытрас з яго падручнік "Роднае слова".)* А… а што гэта? На ласунак не падобна… Першы раз бачу… (*Грызе, нюхае кнігу.)* Якое нясмачнае гэтае нешта! Цьфу!

*З'яўляецца Сава і назірае.*

Сава. Навуку грызці трэба галавой, розумам, але не сваімі зубамі.

Воўк (*здзіўлена*). А, Сава! Гэта ты…

Сава. Угадаў.

Воўк. Сава ж удзень спаць павінна, а ноччу на паляванне выходзіць. А ты цяпер па лесе блукаеш, днём табе не спіцца. Дзіўна гэта неяк.

С а в а . Спала. Але ж ты мяне разбудзіў, шэры.

В о ў к . Я?

С а в а . Ну, не я ж сама сябе разбудзіла!

В о ў к . Прабач.

С а в а . Нічога страшнага, аднак кнігу больш не грызі. Па кнізе трэба вучыцца чытаць, пісаць, лічыць. А не грызці, як ты.

В о ў к . Гэта – кніга!?

С а в а . А ты што, не ведаў?

В о ў к . Не, не ведаў, а навошта мне ведаць?

С а в а . І ў школу не хадзіў?

В о ў к . А што я там забыўся? Вельмі мне патрэбна тая школа!

С а в а . Тады вярні скарб Зайку.

В о ў к . А яму навошта?

С а в а . Калі нясе дадому, ды яшчэ пад такім вялікім сакрэтам, значыць, яму патрэбна. Абы-што ён жа не нёс бы. Заяц не такі недарэка, як іншым здаецца. Дык вернеш ці не яму скарб? Чаго задумаўся?

В о ў к . А чаму я павінен скарб вярнуць?

С а в а . Таму што ён не твой, а Зайкаў.

В о ў к *(падумаўшы).* Так і быць – вярну. Няхай чытае.

С а в а . А я ўвесь час буду за гэтым сачыць. Май на ўвазе. (*Знікае).*

В о ў к . Эх, нешанцуха! А я так узрадаваўся! Скарб называецца! Ад такога скарбу ногі працягнеш! Дарэмна адабраў гэты мех у касавокага, атрымліваецца. Цікава, а яму ўвесь гэты друз навошта? Ну, я так разумею, калі б тут морквачка была альбо капустачка… тады іншая

справа. Ён хіба школьнік? Хм, нічога не разумею. Трэба, мусіць, і сапраўды вярнуць гэты скарб Зайку, бо мне такая радасць не патрэбна. Ды і ад Савы не схаваешся нідзе, хоць і лес вялікі. (*Кліча.*) За-яц! За-яц! Вяртаю табе твой скарб!.. Ты чуеш мяне-е-е?..

*Зайка, Вавёрка і Мядзведзь пачулі голас Ваўка.*

В а в ё р к а . Нехта крычыць. Чуеце?

Г о л а с  В а ў к а (*паўтараецца*). За-яц! За-яц! Вяртаю табе твой скарб!.. Ты чуеш мяне-е-е?..

З а й к а (*крычыць у адказ*). Чую, чую. (*Сябрам.*) Гэта Воўк крычыць.

М я д з в е д з ь . Прыйшоў да розуму, відаць?

В а в ё р к а . З чаго ж ён, Воўк, адразу такім добранькім стаў?

М я д з в е д з ь . І мне падалося, што хітруе Воўк, ох і хітруе, шэры!

Г о л а с  В а ў к а . Я чакаю цябе-е-е!

З а й к а . Я пабягу?

В а в ё р к а . Пачакай, не спяшайся.

М я д з в е д з ь . Вавёрка праўду кажа. Трэба ўсё абдумаць, узважыць…

В а в ё р к а . Каб не трапіць у складаную сітуацыю. Трэба быць асцярожным.

М я д з в е д з ь . Вось-вось.

З а й к а . Я… я пабягу?

В а в ё р к а . Які ты ўсё ж нецярплівы, Зайка!

З а й к а . Я б паглядзеў, якой бы стала ты, каб нехта ў цябе адабраў скарб. Як бы ты сябе адчувала?

В а в ё р к а . У мяне пакуль яго няма.

З а й к а . Дык будзе.

М я д з в е д з ь . Вось што, сябры, аднаго Зайку да Ваўка адпраўляць рызыкоўна і нельга.

В а в ё р к а . І я так думаю.

З а й к а . Ды я смелы! Я не баюся Ваўка.

В а в ё р к а . Памаўчаў бы, смяльчак. З Ваўком не раўняйся, у яго сілы болей, чым у цябе.

М я д з в е д з ь . І нахабства.

В а в ё р к а . Пра нахабства воўчае я ўжо не кажу! Гэтага ў яго хапае.

З а й к а . Маўчыць Воўк, больш мяне не кліча чамусьці.

В а в ё р к а . Мо далёка дзе зайшоў і ўжо таму не чуваць стала яго голасу?

З а й к а . Паспрабуй знайдзі яго цяпер.

Г о л а с  В а ў к а . Дык ты ідзеш, касавокі, ці не?!

З а й к а . Во, адазваўся! Іду-у-у!..

М я д з в е д з ь . Не ідзеш, а ідзём. Можаш так яму і сказаць.

З а й к а . Іду з сябрамі-і-і!..

В а в ё р к а . І скажы, што ідзём з песняй. Хай на песню ідзе. Так хутчэй сустрэнемся.

З а й к а . Ідзём з песняй!..

М я д з в е д з ь . Раз-два-тры, запявай!

У с е  п я ю ц ь  р а з а м –
З а й к а ,  М я д з в е д з ь  і  В а в ё р к а :

Мы ідзём на спатканне з Ваўком,
Скарб аддасць – будзе нам сябруком,

Мы навучым яго шчыра жыць –
І чытаць, і пісаць, і лічыць.

*Прыпеў:*
Забіраць у малых – гэта грэх,
Ты вярні нам хутчэй скарб і мех,
Калі скарб ты не вернеш, тады
Шмат наробіш у лесе бяды.

*Знікаюць з песняй.*

## Дзея другая

*З’яўляецца Воўк з мяшком.*

Воўк. Ідэя! У мяне з’явілася ідэя! *(Ад радасці ажно танчыць.)* Тра-ля-ля, тра-ля-ля. “Касіў Ясь канюшыну, касіў Ясь канюшыну… паглядаў на дзяўчыну…” “Жылі ў бабусі два вясёлых гуся…” Тра-ля-ля, тра-ля-ля. Ідэя – супер! *(Знікае, прытанцоўваючы, і адразу ж вяртаецца без скарбу.)*

*Наплывае песня, з якой ідуць, спяваючы, да Ваўка Зайка, Вавёрка і Мядзведзь.*

Воўк. Дык ён што, касавокі, усіх лясных звяроў за сабою вядзе? Так не дамаўляліся. *(Прыслухоўваецца.)* Ну, канешне, так і ёсць, хіба ж я голас Мядзведзя не распазнаю сярод іншых галасоў? А з ім, з Мядзведзем, у мяне кепскія адносіны, калі не сказаць, што самыя горшыя…

Голас Мядзведзя. Стой, раз-два!

Воўк. Аднак ад сваёй ідэі я не адступлюся, няхай хоць тыгра ці льва з сабой прывядзе Заяц.

*З’яўляюцца Зайка, Вавёрка і Мядзведзь.*

В о ў к . Слухай маю каманду! Не падыходзіць блізка! Усім стаяць на месцы!

З а й к а . Мы па скарб прыйшлі, ты ж сам паклікаў, каб вярнуць яго мне.

М я д з в е д з ь . Зайка не хлусіць, я сам чуў. Клікаў ты яго?

В а в ё р к а . І я, здаецца, не глухая. А такі выгляд у цябе, Воўк, быццам не ты вінен нам, а мы табе. Ты нейкі незадаволены нечым.

*Паўза.*

В о ў к . Я… я… я перадумаў вяртаць скарб.

М я д з в е д з ь *(злосна).* Што-о-о?! *(Кінуўся да Ваўка.)* А ну паўтары, што сказаў!

В о ў к . Што чулі! Тое і сказаў.

М я д з в е д з ь . Ах ты, нягоднік! Ах ты, ілгун! Ах ты, рабаўнік-злодзей! *(Ганяецца за Ваўком, Воўк уцякае.)*

В о ў к *(на адлегласці).* Спакойна, Мядзведзь. Не падыходзь блізка. А то ніколі вам скарбу не ўбачыць, як сваіх вушэй. Дайце… дайце мне слова, я хачу выступіць і сказаць вам сваю думку і прапанову.

З а й к а . Стой, касалапы! Давай паслухаем, што ён скажа.

В а в ё р к а . Ага! Давай!

М я д з в е д з ь . Ну, кажы! Слухаем цябе, шэры!

В о ў к . Скарб я Зайку вярну толькі пры адной умове.

М я д з в е д з ь . Ну, і якая ж яна, гэтая ўмова?

В а в ё р к а . Бачылі вы яго, ён умовы ўжо ставіць!

В о ў к . Проста так аддаваць Зайкаў скарб няма жадання. Перахацелася. Перадумаў. А давайце зробім такі ход: ваша каманда за гэты скарб мне прынясе паўмеха сытнай ежы… курак можна, парсючка… Галодны я, браткі… Хоць памірай, так есці хочацца…

З а й к а . У мяне нічога гэтага няма.

В а в ё р к а . Арэхі есці будзеш?

В о ў к . Арэхі сама еш. У мяне слабыя зубы на арэхі, ды і баляць часта. Няма чым іх грызці.

В а в ё р к а . Чулі?

З а й к а . Ды чулі.

М я д з в е д з ь . Вось што, Воўк, скажу я табе шчыра: ежу ты сам здабывай. Мы самі здабываем, і ты сам сабе шукай.

В о ў к . Дык вось я і здабываю. А што я раблю, павашаму? А?

М я д з в е д з ь . Але не такім чынам. Вяртай скарб Зайку, і куды хочаш, туды ідзі, палюй на каго пажадаеш… Ты самы што ні ёсць злосны рабаўнік.

В а в ё р к а . Па табе наша лясная турма плача!

В о ў к . Не прымаеце, бачу, мае ўмовы?

У с е р а з а м . Не! Не! Не!

В о ў к . Ну, тады да пабачэння. (*Уцякае.)*

*Усе кінуліся за ім наўздагон. Некалькі разоў пранесліся па паляне і нарэшце злавілі Ваўка, наваліліся на яго. Мядзведзь заламаў яму лапу.*

М я д з в е д з ь . Папаўся, які кусаўся!

В о ў к (*ляпае лапай).* Ой! Баліць! Здаюся!

М я д з в е д з ь (*адпусціў яго лапу*). Ну што будзем з ім рабіць, сябры?

В о ў к. Адпусціце, браткі мае родныя! Мяне дома ваўчыха чакае, дзетачкі-ваўчанятачкі-малалетачкі. Адпусціце!

В а в ё р к а. Вернеш Зайкаў скарб, тады ідзі на ўсе чатыры бакі.

З а й к а. Дзе скарб, Воўк?

В а в ё р к а. Прызнавайся!

В о ў к. Быў жа. Клянуся! Я спрабаваў яго яшчэ на зуб, але нясмачны ён, твой скарб, ледзьве ім не падавіўся. Цвёрды гэты скарб, яго нельга есці.

М я д з в е д з ь. У цябе пытаюць, дзе ён?

В а в ё р к а. Ух, так бы і дала яму па нахабным твары!.. Лапаю дала б, альбо хоць хвастом!.. *(Замахнулася.)*

З а й к а. І я б не ўтрымаўся.

В о ў к. Спакойна. Спакойна, лясныя грамадзяне. Хіба я вінаваты, ну скажыце мне, што скарб кудысьці прапаў?

З а й к а. Як прапаў?

В а в ё р к а. Што ён вярзе?

В о ў к. А я і сам не ведаю, як ён знік. Быў – і няма. Ляжаў каля мяне, і варта было мне задрамаць на хвілінку-другую, як хтосьці зрабіў яму ногі, скраў.

М я д з в е д з ь. Усё зразумела. Добра, што вяроўку з сабой узяў. Вось і спатрэбілася. Дапамажыце мне гэтага злодзея звязаць. Хай паляжыць звязаны, пакуль не прызнаецца, куды падзеў Зайкаў скарб.

*Зайка хныкае.*

В а в ё р к а . Не плач, Зайка.

З а й к а . Як жа мне не плакаць?! Згубіўся мой скарб…

*Звязалі нарэшце Ваўка.*

М я д з в е д з ь . Паляжы, паляжы.

В а в ё р к а . Мо паразумнееш.

В о ў к . Добра, вярну я скарб. Усё роўна, бачу, ад вас выкупу не даб'ешся.

В а в ё р к а . Вось гэта іншая справа.

З а й к а . Так бы адразу і сказаў нам.

В о ў к . Здаюся. Развязвайце. У схованцы скарб.

В а в ё р к а . Ну што, паверым яму? *(Пытаецца ў гледачоў.)* Значыць, паверым!

З а й к а . Паверым! Паверым! Паверым!

М я д з в е д з ь . А больш нічога не застаецца. А калі ўцякаць зноў надумаеш, дагонім і звяжам так, што не рыпнеш. Да дуба прывяжам, і будзеш прывязаны стаяць. І мурашкі цябе з'ядуць…

В о ў к . Ды з вамі, я бачу, жарты кепскія.

*Ваўка развязваюць.*

В о ў к . Во, зусім іншыя справы. (*Зрабіў прабежку на месцы.)* Парадак. Пайду прынясу зараз скарб. Чакайце мяне тут.

М я д з в е д з ь . Ды не, дружок. І я з табою. Аднаго цябе адпускаць нельга – потым зноў цябе даганяць давядзецца, лішнія сілы траціць. А мне на зіму трэба тлушч назапашваць.

В о ў к . Ну што вы, сябры! Зусім, гляджу, ужо мне не давяраеце? Мне гэта непрыемна адчуваць.

В а в ё р к а . Не давяраем. Сам стварыў сабе такую рэпутацыю.

З а й к а . Не мы ж яе стварылі.

М я д з в е д з ь . За табой вока ды вока патрэбна. Ну, вядзі да схованкі, шэры.

В а в ё р к а . А мы што тут рабіць павінны? І мы пойдзем з табой, касалапы.

З а й к а . Ага. Пойдзем.

М я д з в е д з ь . Глядзіце самі.

В о ў к . Так не давяраць сталі мне! Так не давяраць! Што за народ лясны ў нас! Адны недаверакі жывуць у гэтым лесе, бачу я.

М я д з в е д з ь . У крывога дрэва і цень крывы… Памятай пра гэта, Воўк.

*Усе пачалі хадзіць па лесе за Ваўком – шукаць скарб.*

В о ў к . Вось тут жа, здаецца, яго схаваў.

М я д з в е д з ь . Глядзі лепш!

В а в ё р к а . Тут нічога няма.

З а й к а *(усхліпвае)*. Мой скарб… мой скарб…

М я д з в е д з ь . Здагадваюся, Зайка, што твой скарб стаў і нашым.

В о ў к . А мо ў гэтым месцы я прыткнуў яго да кусціка? Што за дзівосы! Вы, гляджу, мне не верыце?

В а в ё р к а . Не верым.

З а й к а . Вяртай скарб, Воўк!

В о ў к . Ды не хлушу я! Сапраўды, схаваў, а знайсці не магу.

З а й к а . Касалапы, скажы Ваўку што-небудзь.

М я д з в е д з ь . Дзе мая вяроўка?!

В о ў к . Шукаю, шукаю. *(Поўзае на карачках, корпаецца ў лістоце, нюхае зямлю.)*

*З'яўляецца Сава з мехам.*

С а в а . Ды не шукайце, скарб у мяне.

В о ў к . А! Бачылі?! У яе! А на мяне накінуліся! Я самы сумленны, можа, Воўк ва ўсім свеце! Такіх Ваўкоў, як я, – раз, два і аблічыўся…

З а й к а . Скарб знайшоўся! Мой скарб знайшоўся! *(Забраў у Савы мех, прытуліў да сябе.)*

В а в ё р к а . Ура-а! Касалапы, Зайка, крычыце "ўра".

Р а з а м . Ура-а-а!

С а в а . Гэта не толькі твой скарб, Зайка. Гэты скарб спатрэбіцца ўсім нашым лясным звяркам. Як вы і здагадаліся, я сачыла за Ваўком. І калі ён ад вас схаваў мех, то я забрала яго, каб не рызыкаваць, так надзейней было. Узяла ў ім гэтую мудрую кнігу "Роднае слова", пазнаёмілася з ёй, наколькі паспела. "Роднае слова" стане самай першай і мудрай кнігай у лясной школе. Спачатку па ёй павучацца зайчаняты. А потым – іншыя юныя лясныя жыхары.

З а й к а (*горда)*. А я туды яе і нёс!

С а в а . Малайчына, Зайка. І ўсе вы малайцы, што не далі прапасці гэтаму скарбу.

В а в ё р к а . Бясцэннаму…

С а в а . Вавёрка правільна сказала: бясцэннаму. Бо няма нічога важнейшага на зямлі, як наша роднае слова. Дзякуючы яму мы пазнаём навакольны свет, жыццё ў іншых лясах і нават на іншых планетах… Гляньце,

колькі ў гэтай кнізе загадак! *(Узяла ў Зайкі кнігу.)* Зараз праверым, хто ў нас самы знаходлівы і здагадлівы. Не супраць?

Усе. Не.

Сава. Першая загадка. *Ні рук, ні ног не мае, а шышкі страсае.*

Вавёрка. Вецер.

Сава. Правільна. Малайчына, Вавёрачка. Другая загадка. *Хоць зубоў не мае, а балюча кусае*.

*Паўза.*

Воўк. Не мароз гэта, выпадкова?

Сава. Правільна, мароз.

Воўк *(дрыжыць)*. Вой-вой-вой! Як успомню гэты мароз, дык і ўлетку дрыжыкі прабіраюць.

Сава. Загадка трэцяя. *Устаў белы бык, у акно пальчык тык*. Ну, хто адгадае? Складаная загадка, згодная.

Зайка. Дзень.

Сава. Малайчына, Зайка.

Мядзведзь. Усе па адной загадцы адгадалі, а я чым горшы?

Сава. Добра, загадка для Мядзведзя.

Вавёрка. Падказваць можна?

Сава. Ні ў якім разе.

Мядзведзь. Не трэба мне падказваць, я сам паспрабую.

Сава. Тады слухай, касалапы. Як гукнеш, так і адгукнецца.

Мядзведзь *(думае, за яго хвалююцца)*. Э-гэ-гэ-э-э!

С а в а . Малайчына і ты, Мядзведзька. Гэта сапраўды рэха. Што ж, сябры мае, панясём разам Зайкаў скарб? Дапаможам яму?

В а в ё р к а . Абавязкова! Каб больш на яго не нападалі розныя там ваўкі!

В о ў к . Каб я ведаў, што гэта сапраўды такая важная рэч, кніга гэтая, я б яе ніколі не адбіраў у Зайкі і не грыз бы.

С а в а . Чаму ж, іншы раз грамату грызці неабходна. Толькі не так, а сядзець за партай трэба, вучыцца ў школе, а потым у інстытуце. Каб быць разумным. Адукаваным. Пойдзеш з намі, Воўк?

В о ў к . Ды куды мне ўжо! Стары я… жонка… дзеці ў мяне. Сем'янін я.

С а в а . Вучыцца ніколі не позна.

В о ў к . З мяне ж смяяцца будуць.

С а в а . Не будуць. І дзяцей сваіх прыводзь.

В о ў к . А ваўчыху можна?

В а в ё р к а . Табе ж кажуць: вучыцца ніколі не позна! Што значыць невук. Зусім пустая ў цябе галава. *(Паляпала Ваўка па галаве, аж пайшоў па лесе звон, бы ад парожняга чыгуна.)* Бачылі? (*Усе засмяяліся.)*

М я д з в е д з ь . Шкада, што калі ў вас заняткі ў школе будуць, мне ў бярлозе лапу смактаць трэба. Несупадзенне атрымліваецца, як бачыце. Я б ахвотна…

В а в ё р к а . Сапраўды, шкада. А я б з табой за адной партай сядзела б, бо ты самы добры Мядзведзь на свеце.

З а й к а . А я да вас далучыўся б, сапраўды.

В а в ё р к а . Значыць, Зайка, твой скарб – ён і мой таксама?

З а й к а . Канешне.

В а в ё р к а . Я вельмі рада, што так усё атрымалася!

С а в а . Зайкаў скарб усім спатрэбіцца.

В а в ё р к а . Так што, Воўк, пагаджайся.

З а й к а . Каму-каму, а табе навука наша не пашкодзіць.

В о ў к . А можна ўсёй сям'ёй за адной партай сядзець?

С а в а . Можна, шэры!

В о ў к . Тады запісвайце ў сваю школу! Так і быць! Угаварылі! Буду грызці навуку іншым спосабам! Разам з вамі!

З а й к а . Дзякуй вам, сябры! Дзякуй за дапамогу, за тое, што свой скарб я нарэшце аднясу ў Зайкаву школу. А потым мы абавязкова закажам у лясной друкарні такія скарбы для маленькіх медзведзянят, ваверчанят, савянят і ваўчанят. Адкрыем лясныя школы, і ўсе будуць вывучаць роднае слова. А цяпер мне трэба спяшацца ў Зайкаву школу і аднесці туды свой скарб. Там мяне вельмі чакаюць.

У с е р а з а м . І мы з табой, Зайка.

*Усе разам спяваюць:*

Скарб духоўны мы нясём,
Каб змаглі вучыцца ўсе
Кніжкі родныя чытаць
І сяброў не забываць.

*Прыпеў:*

На заняткі, на заняткі
Трэба крочыць нам шпарчэй.
Нас чакаюць зайчаняткі,
Дык хутчэй, хутчэй, хутчэй!

Каб вучыліся пісаць,
Свет цудоўны адкрываць,
Бо без роднай мовы мы
Як без лета і зімы.

*Прыпеў:*

На заняткі, на заняткі
Трэба крочыць нам шпарчэй.
Нас чакаюць зайчаняткі,
Дык хутчэй, хутчэй, хутчэй!

*І пакуль песня гучыць,*
*усе нашы героі па чарзе нясуць Зайкаў скарб.*

*Знікаюць.*

ЗАСЛОНА.

# Прыгоды вакол Баравічка

П'еса-казка ў адной дзеі

*Дзеючыя асобы:*

Баравічок
Баба-Яга
Воўк
Ліса
Вожык

*Лясная шырокая палянка.*
*Аднойчы туды трапіла Баба-Яга. Проста ішла, блукала па лесе і прыйшла на гэту палянку.*
*У Бабы-Ягі добры настрой, і яна, гуляючы па лесе, спявае песню:*

Я адна пражыць магу –
Ці пазналі вы Ягу?
Бабку вы Ягу пазналі?..
Вы мяне не сустракалі.

*Прыпеў:*
Ёсць у Бабачкі-Ягі
Ручкі дзве і дзве нагі,
Ёсць у Бабкі і мятла…
Эх, мятлою вам дала б…

Лес вялікі – гэта хата,
Год жыву я ў ёй багата.
Не баюся я звяроў,
Бо не маю я сяброў!

*Прыпеў:*
Ёсць у Бабачкі-Ягі
Ручкі дзве і дзве нагі,
Ёсць у Бабкі і мятла…
Эх, мятлою вам дала б…

*Пасля песні Баба-Яга спынілася, бо ўбачыла Баравічка з тэлефонам. Схавалася за куст. Слухае. Маленькі Баравічок па мабільным тэлефоне размаўляе з Вожыкам.*

Б а р а в і ч о к *(размаўляе па тэлефоне).* А калі ты, братка Вожык, завітаеш да мяне ў госці? Мне вельмі сумна тут аднаму на паляне...

Б а б а - Я г а *(выскоквае з-за кустоў).* Табе сумна, так? Я зараз цябе развесялю, мой даражэнькі. Ой, які прыгожанькі грыб! Гэта сапраўдны Баравічок! Як добра, што я ўбачыла цябе і знайшла самая першая. Значыць, гэта мой Баравічок! Ура!!! Глядзіце, глядзіце, як мне пашанцавала, я першая знайшла ў лесе прыгожага Баравічка! *(Скача ад радасці.)*

*Баравічок хавае тэлефон.*

В о ў к (*выскоквае з-за кустоў*). Не хавай тэлефон. Аддай яго мне, хуценька! *(Забірае тэлефон.)* Гэта я знайшоў Баравіка першы. Я проста сядзеў за кустом і чакаў, калі ён пагутарыць па тэлефоне і падрасце. Ён мой!

Л і с а *(пачула спрэчку, выбегла).* Гэта не твой Баравічок. Я яго запрыкмеціла яшчэ ўчора. Так што вы спазніліся, гэта мой Баравічок!

Б а б а - Я г а . Не, гэта мой Баравічок. Калі я тут была, то нікога з вас не бачыла. І цябе не бачыла. І цябе не бачыла. Бо вас тут не было. Значыць, грыб мой.

В о ў к . Не, ён мой. І нікому яго не аддам.

*Пачынаюць біцца і крычаць:*
*"Мой Баравічок, мой, не дам нікому, мой".*

Б а р а в і ч о к . Дзіўныя вы ўсе! *(Усе спыняюць бойку і здзіўлена глядзяць на Баравіч*ка.) А ў мяне вы запыталі, ці хачу я з вамі быць?

Л і с а . У цябе?

Б а р а в і ч о к . У мяне. А ў каго ж… А я зусім не жадаю быць з вамі. Я не для вас тут расту, я сам па сабе. Зразумелі?..

Б а б а - Я г а . Не зразумела… Памятай, ты ў лесе не адзін, гэта не толькі твой лес і твая паляна. Гэта наш агульны лес – наш дом, наша багацце. Зразумеў?

Б а р а в і ч о к . Дык жывіце спакойна ў нашым лесе, не перашкаджайце мне расці і размаўляць са сваімі сябрамі…

В о ў к . Мы твае сябры!.. (*Смяецца.)* Зразумеў?!

Л і с а . Стоп. Хопіць з ім спрачацца. Давайце мы гэты грыб падзелім на тры часткі.

Б а б а - Я г а . А як мы яго падзелім, калі ён зусім яшчэ маленькі?

*Усе ходзяць вакол Баравічка і глядзяць на яго, шкадуючы.*
*Баравічок спалохана глядзіць на іх.*

Б а р а в і ч о к. Ідзіце ад мяне. Не перашкаджайце мне расці.

*Яго ніхто не слухае.*

В о ў к. Я прыдумаў. Я прыдумаў! Давайце мы з гэтага Баравічка зварым суп.

Л і с а. Гэта цікавая ідэя. Будзе смаката. *(Аблізваецца.)*

Б а б а - Я г а. Я не хачу супу. Гэта мой Баравік. Я даўно не ела баравікоў, падбярозавікаў, маслякоў, падасінавікаў. Увесь час ем толькі мухаморы. Ад іх я зусім старая стала. *(Робіць выгляд, што плача.)* Ад мухамораў я старэю і выпадаюць усе зубы.

В о ў к. А я ем толькі воўчыя грыбы. Хачу паспрабаваць Баравічка-а-а! Воўчыя грыбы мне надакучылі. Яны для мяне ўжо не смачныя.

Л і с а. А я ем толькі лісічкі. Іх ужо мала засталося ў лесе, усе я паела. Хачу Баравіка. Значыць, будзем яго дзяліць на тры часткі.

В о ў к. А як гэта дзяліць? Каму дастанецца карэньчык, каму шапка, а каму нічога?.. Так?..

Б а б а - Я г а. Нікому. Толькі мне ўвесь грыб. Бо я самая-самая першая яго ўбачыла.

*Воўк, Баба-Яга і Ліса пачынаюць зноў біцца з-за Баравічка.*

Б а р а в і ч о к *(глядзеў на ўсіх і маўчаў, але не вытрымаў.)* Я не хачу быць з вамі. І есці вы мяне не будзеце.

Л і с а. Ого, хто тут сказаў “мяў”?

Б а р а в і ч о к. Я не кот. Я – Баравік. Я не хачу быць ні з табой, Ліса, ні з табой, Воўк, і тым больш ні з табой, Яга, касцяная нага!

*Усе зноў абступілі Баравічка.*

Б а б а - Я г а . А хто ў цябе будзе пытацца, з кім ты хочаш быць? Зараз ножычкам чырык – і… капялюшык табе адрэжам, зразумеў?

В о ў к . Малы яшчэ, а такі нахабны. Мы гэтую нахабнасць хутка супакоім.

Л і с а . Хопіць сварыцца. Калі вы не любіце суп, то проста зварым Баравіка і ўсе разам яго з’ядзім.

В о ў к . А ў чым яго будзем варыць?

Б а б а - Я г а . Як у чым? У катле.

Л і с а . А дзе мы возьмем вялікі кацёл?

В о ў к . А навошта вялікі, хопіць маленькага чыгунка.

Б а б а - Я г а . Трэба вялікі кацёл. Няхай усе астатнія ўбачаць і будуць баяцца, што іх мы таксама можам зварыць у катле. Пайду патэлефаную цмоку, каб прывёз нам вялікі кацёл. *(Выходзіць.)*

В о ў к . Калі кацёл будзе вялікі, то трэба мець вялікі чарпак, каб перамешваць усё, што будзе варыцца ў катле. Пайду пашукаю чарпак. (*Выходзіць.)*

Л і с а . Будзе кацёл, будзе чарпак, толькі не хапае фартуха і каўпака. Пабягу дадому ў сваю нару, там у мяне ёсць квяцісты фартух і вялікі каўпак. А Баравічок няхай яшчэ падрастае і нас чакае, хутка мы яго зварым і будзем есці. *(Выходзіць.*)

*На лясной паляне застаецца Баравічок, які пачынае плакаць. Пачуўшы плач, выбягае на палянку Вожык.*

В о ж ы к *(пытаецца і глядзіць навокал).* А хто тут плача?

Б а р а в і ч о к . Я плачу-у-у! (*Плача.*)

В о ж ы к . А чаго ты плачаш? Хто цябе пакрыўдзіў?

Б а р а в і ч о к . Баюся нават табе, Вожычак, казаць. Таму што і цябе яны могуць пакараць…

В о ж ы к . Хто яны? За што пакараць? Я нічога дрэннага не раблю, таму не разумею, што адбываецца...

Б а р а в і ч о к . Я ціхенька сядзеў пад кусцікам. А на палянку прыйшлі Баба-Яга, Ліса і Воўк. І яны хацелі мяне з'есці. А потым вырашылі зварыць мяне ў вялікім катле, пачакаўшы, калі я падрасту.

В о ж ы к . А дзе яны цяпер? Куды падзеліся?

Б а р а в і ч о к . Пайшлі па кацёл і чарпак. А потым распаляць касцёр, паставяць кацёл, нальюць вады і кінуць мяне туды. Будуць варыць, а потым разам з'ядуць. Магчыма, з мяне звараць суп. Грыбны суп атрымаецца. Я чуў, як яны пра гэта тут размаўлялі і спрачаліся. Яны чакаюць, пакуль я яшчэ трохі падрасту.

В о ж ы к . Так, гэта сур'ёзна… Але я што-небудзь прыдумаю. І цябе ў крыўду не дам. Чакай мяне і не хвалюйся. *(Знікае.)*

*Чуваць крыкі. На сцэну Баба-Яга коціць вялізны кацёл.*
*Ліса нясе ад яго крышку. Яна апранута ў фартух і каўпак.*
*Воўк на плячах трымае вялікі чарпак.*

Б а б а - Я г а . О, о, о!.. Замучылася. Цмок прыцягнуў гэты кацёл і паляцеў па сваіх справах. А я яго качу ажно ад сваёй хаты на курыных ножках. Цяжкі кацёл. Чыгунны.

В о ў к . А навошта такі вялікі кацёл?

Б а б а - Я г а . Меншага ў цмока не было. Які быў кацёл, такі ён мне і даў. Дзякуй яму за гэта.

В о ў к . Смачненькі будзе грыбок. Мы яго пасолім. Бульбачкі туды кінем.

Л і с а . Бульбачкі? Ага, бульбачкі… Дзе ж ты яе накапаеш, той бульбачкі?

В о ў к . У вёску збегаю, накапаю мяшок і прывалаку…

Б а б а - Я г а . Глядзі, каб цябе там сабакі не разарвалі, адважны знайшоўся.

Л і с а . Можа, ты, шэры, яшчэ курачку па дарозе схопіш, а? *(Смяецца.)* Ці пеўніка?.. А?..

В о ў к . Я есці хачу, здаецца, кару грыз бы – так есці хачу.

Б а б а - Я г а . Будзеш ты яшчэ доўга галодны… І мы з Лісою есці хочам, але не ўсё так хутка зробіцца.

*Баба-Яга прыкаціла кацёл на сярэдзіну паляны.*
*Замучылася. Выцірае пот. Воўк з Лісою яго разглядаюць.*

Б а б а - Я г а . Цяжкі і вялікі гэты кацёл. Цяпер трэба яго паставіць на камяні. Наліць туды вады і крышку наверх зацягнуць.

В о ў к . А потым распалім касцёр і будзем кіпяціць ваду.

Л і с а . Давайце разам паставім кацёл.

*Ліса, Воўк і Баба-Яга з цяжкасцю ставяць кацёл.*

У с е  р а з а м . О, замучыліся! *(Селі.)*

В о ў к . Ніколі ў жыцці не бачыў такога катла. Для аднаго маленькага Баравічка такі вялікі кацёл. Аж страшна мне…

Л і с а . Кацёл у нас будзе тут стаяць заўсёды. Калі хто пачне паводзіць сябе не так, як трэба, мы яго…

В о ў к *(працягвае).* Боўць у кацёл, і ўсё, ён адтуль ніколі не вылезе. Зразумела, Ліса? Ні-ко-лі… Толькі булькаць будзе: буль-буль-буль…

Б а б а - Я г а . Хопіць філасофстваваць. Зараз трэба крышку наверх зацягнуць і наліць вады.

Л і с а . Няхай Воўк зробіць лесвіцу, паставім яе і тады будзем наліваць у кацёл ваду.

В о ў к . Я не ўмею нічога рабіць. Я толькі ўмею палохаць, шукаць і есці. *(Смяецца.)*

Б а б а - Я г а . Вось і пашукай па лесе лесвіцу. Ці нешта падобнае, каб можна было залезці да верху катла і наліць вады.

В о ў к . Добра. Пабягу пашукаю, ці можа ў каго-небудзь забяру. *(Выбягае.)*

Л і с а . А цяпер трэба прынесці дроў і распаліць касцёр.

Б а б а - Я г а . Гэта зробім у апошнюю чаргу. Спачатку трэба лесвіца, наносім вады, закрыем крышкай і няхай грэецца да кіпення. А потым возьмем Баравіка і кінем у кацёл.

*Воўк прыцягвае лесвіцу.*

Л і с а . Дзе ты яе ўзяў, шэры?

В о ў к . У дзятла ўкраў. Дзяцел стаяў на лесвіцы і дзюбай стукаў па дрэве, а я ціхенечка падпоўз, схапіў лесвіцу і наўцёкі.

Л і с а . А дзяцел што?

В о ў к . Дзяцел упаў з лесвіцы і стукнуўся дзюбай. Прыбеглі вавёркі і пачалі яго лячыць. А я ўцёк. Не ведаю, што там было далей. Магчыма, яго адвезлі ў лясную бальніцу, гіпс на дзюбу наклалі. *(Смяецца.)*

Баба-Яга. Давай, стаў лесвіцу да катла і правер, ці добра па ёй лезці будзе.

*Воўк ставіць лесвіцу,*
*лезе па ёй наверх і заглядвае ў кацёл.*

Воўк *(крычыць у кацёл: "О-о-о-о!" Рэха разлятаецца па ўсім лесе).* Цудоўна. Можам насіць ваду і наліваць у кацёл.

Ліса. Злазь, герой! Трэба ісці па ваду.

*Воўк спускаецца з лесвіцы.*

Баба-Яга. Нам патрэбны вёдры, якімі мы будзем з крыніцы набіраць ваду і насіць у кацёл. Дзе ж узяць гэтыя вёдры, а?

Воўк. Таксама трэба дзесьці ўкрасці. Няхай Ліса за гэта адказвае. А то яна нічога не робіць, а толькі хітрыць і хвастом віляе. *(Перадражнівае.)* А есці будзе больш за ўсіх. Нахабная ты, рыжая! Ох!.. Нахабная!..

Ліса. Хопіць табе мяне абражаць, бо я хутка пакрыўджуся на цябе, шэры. Думай, дзе ўзяць вёдры.

Баба-Яга. Успомніла, у мяне ў хатцы ёсць старыя вёдры, пайду пагляджу і прынясу. *(Выходзіць.)*

Воўк. Есці хачу-у-у-у!

Ліса. І я есці хачу-у-у-у! Курачку б мне зараз!..

Воўк. І я курачку з'еў бы. Нават дзве, а можа і тры…

*Прыходзіць Баба-Яга з вёдрамі.*

Баба-Яга. Бярыце вёдры і пойдзем па ваду.

*Воўк, Ліса і Баба-Яга бяруць вёдры і ідуць па ваду.*
*На сцэне з'яўляецца Вожык.*
*Яго сустракае спалоханы Баравічок.*

Баравічок *(у адчаі).* Усё, усё, мне жыць засталося зусім мала. Яны ўжо пачынаюць кіпяціць ваду. Распаляць хутка касцёр, вада закіпіць, і тады кінуць туды мяне. Усе пайшлі па ваду.

Вожык. Ды не хвалюйся, я прыдумаў сакрэтны план. Дзякуючы яму я вызвалю цябе і не дам, каб Воўк, Ліса і Баба-Яга цябе з’елі.

Баравічок. А што гэта за такі план?

Вожык. Гэта сакрэт. Я нават табе не магу сказаць. А раптам хто падслухае нас і перадасць ім, тады будзе бяда, і я цябе не выратую. Ды і план вельмі просты, хаця сакрэтны. Сам потым убачыш.

Баравічок. Добра. Не трэба мне расказваць.

Вожык. Ты расці далей, будзь спакойны, сачы, што яны тут будуць рабіць, і слухай, што будуць казаць. А калі чарга дойдзе да цябе, то мне непрыкметна патэлефануй, і я ў самы адказны момант з’яўлюся на гэтай паляне.

Баравічок. У мяне ўжо няма тэлефона.

Вожык. А дзе ён?

Баравічок. Забраў Воўк.

Вожык. Вось табе мабільны тэлефон. У мяне іх некалькі. *(Дае Баравічку тэлефон. Баравічок бярэ яго і хавае.)*

Вожык. Нумар тэлефона памятаеш?

Баравічок. Памятаю. Ты – Вожык, значыць, твой тэлефон нумар 888.

Вожык *(усміхаецца).* Восем – у госці просім. Ну, добра, дамовіліся, я пайшоў па сваіх справах і буду чакаць твайго званка. Толькі не хвалюйся, будзь спакойны.

Б а р а в і ч о к . Добра. Дзякуй табе, Вожык!

В о ж ы к . Дзякаваць яшчэ рана. Бывай!

*Вожык выходзіць.*
*З'яўляюцца адразу Воўк, Баба-Яга і Ліса з поўнымі вёдрамі вады. Вёдры паставілі каля катла.*

Л і с а . Шэры, залазь на лесвіцу і будзеш ад нас прымаць вёдры з вадой і выліваць у кацёл.

В о ў к . А чаму гэта я?

Б а б а - Я г а . Мы з Лісой так вырашылі.

В о ў к . А што гэта вы за камандзіры тут знайшліся?

Л і с а . Мы генералы гэтага лесу!..

В о ў к . Хто, вы – генералы лесу?.. Няма на вас мядзведзя ці льва, вы так уцякалі б, што генеральскія пагоны пагублялі б між бяроз і соснаў. *(Смяецца.)* Генералы тут мне знайшліся…

Б а б а - Я г а . Ціха ты, многа не выступай супраць нас, а то застанешся без Баравіка і супу, мы без цябе з'ямо ўсё.

В о ў к *(падбягае да Бабы-Ягі).* Што ты сказала, Ялюга-Бабалюга?!

Б а б а - Я г а . Супакойся, а то як дам гэтай мятлою, дык іскры з вачэй пасыплюцца. (*Замахнулася мятлою.)*

В о ў к . Зломіш мятлу, на чым будзеш лётаць па лесе?

Б а б а - Я г а . У мяне ёсць новая.

Л і с а . Хопіць вам спрачацца. Пара працягваць нашу справу. *(Ласкава.)* Калі ласка, шэранькі, залезь на лесвіцу і вылі сваё вядро вады, а потым мы пададзім нашы вёдры.

В о ў к (*супакоіўся*). Добра, так і быць, паслухаю цябе, рыжая.

*Воўк ставіць лесвіцу, бярэ вядро, залазіць наверх і вылівае ў кацёл ваду. Яму падаюць свае вёдры Баба-Яга і Ліса. Ён вылівае ў кацёл і іх вёдры.*

Л і с а . Мы сходзім яшчэ па ваду, а ты распалі касцёр пад катлом, няхай ён награваецца і кіпяціць вадзіцу.

В о ў к . Добра. Ідзіце.

*Ліса з Бабай-Ягой бяруць вёдры і ідуць па ваду. А Воўк збірае сухія паленцы і пачынае распальваць касцёр. Але касцёр распаліць яшчэ не паспявае.*

В о ў к (*кажа сам сабе*). А можа, мне зрэзаць Баравічка і ўцячы ў лес? А?.. Навошта мне гэтая Ялюга-Бабалюга і Ліса?.. Я так есці хачу… Але адным Баравічком я не наемся ўсе роўна, то хоць супу паем…

*Ліса і Баба-Яга нясуць вёдры з вадой. Пачулі, як Воўк размаўляе.*

Л і с а . А з кім гэта ты, шэранькі, размаўляеш?

В о ў к . Сам з сабою.

Б а б а - Я г а . Гэта ўжо старасць называецца.

В о ў к . Ніякая не старасць. Чаму мне з добрым Ваўком не паразмаўляць?.. *(Смяецца.)*

Л і с а . Глядзі ты ў нас, паводзь сябе сумленна. А то грыбнога супу не паспрабуеш…

В о ў к . Маўчы, рыжая. Ты мне ўжо надакучыла.

Б а б а - Я г а . Давай, шэры, вылівай ваду ў кацёл.

В о ў к *(бярэ вядро, лезе па лесвіцы і вылівае ваду. Потым бярэ другое вядро і зноў вылівае).* Трэба яшчэ пару вёдзер вады, і хопіць тады.

Л і с а . А ці шмат там вады? Паглядзі, шэранькі!

В о ў к . Зараз гляну!

*Воўк залазіць на верх лесвіцы і перагінаецца, каб глянуць у кацёл, а потым зрываецца і падае туды. Ажно гук пайшоў па ўсім лесе. Ліса і Баба-Яга падскочылі ад убачанага, спалохаліся і не ведаюць, што рабіць.*

Л і с а . Ой, шэранькі, што з табой!?.

Б а б а - Я г а *(прытуліўшы вуха да катла).* Ці жывы ты там?

Л і с а (*жаласліва, шкадуючы, плачучы, але ўсё не пасапраўднаму, а сама ўзрадавалася, што яго няма*). Ах, шэранькі ты наш, а як мы будзем тут без цябе, а хто нам распаліць касцёр, а хто нам бульбачкі прынясе, а хто нам вадзіцу выльe, а каго мы пачастуем грыбочкам і супчыкам, а ты наш дбайненькі работнічак, а-я-яй!

*Ліса ходзіць вакол катла і прыгаворвае. І паўтарае словы.*

Б а б а - Я г а *(звяртаецца да Лісы).* Не скуголь, не вый! Трэба Ваўка ратаваць!

Л і с а . А навошта яго ратаваць? Зараз Баравічка падзелім папалам і пойдзем па сваіх справах.

В о ў к *(пачуў, крычыць з катла).* Рыжая! Я жывы, толькі бакі трохі пабіў! А за свае словы ты ў мяне атрымаеш па заслугах. Я з цябе суп звару, хітрая ты і нахабная, рыжая! Вось жа валацуга!

Б а б а - Я г а . Хопіць спрачацца. Трэба ратаваць Ваўка. Рыжая, шукай вяроўку ці доўгую жэрдку, будзем даставаць шэрага, бо ён там прападзе.

Л і с а . Зараз пабягу пашукаю. *(Выбягае.)*

Б а б а - Я г а *(крычыць)*. Шэры, ты жывы там яшчэ?!

В о ў к . Жывы-жывы, Бабалюга-Ялюга! Холадна тут, я замярзаю ў вадзе!

Б а б а - Я г а . Пацярпі крыху. Хутка Ліса прынясе вяроўку ці жэрдку – выцягнем цябе.

*Прыбягае Ліса з вяроўкай.*

Б а б а - Я г а . Хутчэй закідвай у кацёл вяроўку, будзем даставаць Ваўка.

*Ліса апускае ў кацёл вяроўку.*
*А потым разам з Бабай-Ягой выцягваюць з катла Ваўка.*
*Воўк трасецца ад холаду і ад страху.*

В о ў к . Мне холадна!.. *(Дрыжыць.)* І страшна там было…

Л і с а . Распальвай вогнішча. Грэй кацёл, кіпяці ваду, ды і сам сагрэешся!

В о ў к *(пачынае распальваць каля катла касцёр)*. Нешта цяжка распальваецца вогнішча.

Л і с а . Давай-давай, хуценька распальвай, няма часу. Есці ўсе хочуць, ды і Баравічок ужо падрос.

*Разгараецца касцёр. Грэецца ў катле вада.*

В о ў к . А давайце разам патанцуем, паспяваем. Можа, я сагрэюся.

Б а б а - Я г а . Ты што прыдумаў, шэры! Я зусім старая для скокаў. Я сваё адскакала, калі яшчэ была маладая. Цяпер толькі ўмею лятаць на мятле. Ды і мятла ў мяне з'явілася самая сучасная, ты ж бачыў.

В о ў к . Ты ўсё хвалішся і хвалішся мятлою. Што значыць сучасная?

Л і с а . Мятла як мятла, і ўсё. Што там сучаснага?.. Ой!..

Б а б а - Я г а . Усё сучаснае. Мятла ў мяне незвычайная, з рухавіком, мае 13 хуткасцей.

В о ў к . Колькі?

Б а б а - Я г а . Трынаццаць. Трынаццатая самая шпаркая. Мятла развівае хуткасць такую, як ракета, што ляціць на Марс.

В о ў к . А ты хоць раз лятала на трынаццатай хуткасці?

Б а б а - Я г а . Не. Па лесе я лятаю на другой хуткасці, па полі на пятай хуткасці. А ўцякаю ад усіх незнаёмцаў на сёмай хуткасці…

В о ў к . Толькі я адзін не маю нічога ў сваім жыцці... *(Уздыхае.)* Нават Баба-Яга мае мятлу з рухавіком!.. Вось гэта навіна!

Б а б а - Я г а . Хопіць. Пара брацца за працу. Вы, мусіць, зусім забыліся, дзеля чаго мы сюды прыйшлі.

В о ў к . Не забыліся.

Л і с а . Касцёр гарыць. Хутка закіпіць вада.

В о ў к . Неяк сумна. Давайце паспяваем і патанцуем вакол катла. Можа, не так будзе хацецца есці.

Б а б а - Я г а . Так і быць – давайце.

*Загучала музыка.*
*Усе пачалі скакаць вакол катла і спяваць песню.*

В о ў к :

Кіпіць вада ў катле,
Плыве па лесе дым.
Паверце, дзеткі, мне,
Я самы тут круты.

Усе разам пяюць прыпеў:

Туды-сюды, сюды-туды,
Вядуць да нас усе сляды.
У лесе вуліц хоць няма –
Ды прыйдзе да грыбка журба.

Ліса:

Такі шчаслівы дзень!
Мы будзем гатаваць
Той супчык, што нідзе
Вам не пакаштаваць.

Усе разам пяюць прыпеў:

Туды-сюды, сюды-туды,
Вядуць да нас усе сляды.
У лесе вуліц хоць няма –
Ды прыйдзе да грыбка журба.

Баба-Яга:

Хутчэй варыся, суп,
Мы вельмі есці хочам,
Дабавім яшчэ круп –
І зварыцца да ночы.

Усе разам пяюць прыпеў:

Туды-сюды, сюды-туды,
Вядуць да нас усе сляды.
У лесе вуліц хоць няма –
Ды прыйдзе да грыбка журба.

Баба-Яга *(упала пасля скокаў).* Ой, цяжка старой бабцы танчыць і песні выконваць. Стамілася я ўжо тут з вамі, зусім стамілася. (*Спрабуе ўстаць на ногі.)*

В о ў к (*дапамагае ёй устаць*). Падымайся, старая!

Л і с а . Я вось што думаю...

В о ў к . Што?

Л і с а . Мы ж хацелі ў суп бульбы дадаць, а?..

Б а б а - Я г а . А дзе ўзяць тае бульбы? Гэта трэба ісці ў вёску…

В о ў к . Дык ідзі, чаго тут скачаш?!.

Л і с а . Сядай на мятлу і ляці ў вёску, там у агародах накапаеш бульбы.

Б а б а - Я г а . Не магу. А раптам хтось з рагаткі саб’е мяне. Упаду я і разаб’юся.

В о ў к (*смяецца*). Ой, з рагаткі… Тваю мятлу бусел клюне, і яна разваліцца ўшчэнт.

Л і с а . Альбо верабей сядзе табе на плечы, і заглухне рухавік на мятле ад цяжкасці. *(Смяецца.)* І хуткасць палёту будзе адзін метр у гадзіну…

*Воўк і Ліса смяюцца.*

Б а б а - Я г а . Хопіць вам рагатаць. Трэба бульбу шукаць. Давай, шэры, ідзі ў вёску, там асцярожна накапаеш у любым агародзе, каб ніхто не бачыў, накідаеш у мех, прыхопіш яшчэ морквы, кропу, цыбулькі, і ўсё сюды прывалачэш. Зразумеў?..

В о ў к . Табе лёгка сказаць – накапаеш, прывалачэш, а калі на мяне нападуць вясковыя сабакі, а калі людзі мяне зловяць?.. Заб’юць тады.

Л і с а . Намагайся, каб не злавілі.

*Незадаволены Воўк пакідае Лісу і Бабу-Ягу,*
*буркочучы пад нос словы: “Намагайся, намагайся…”*

Баба-Яга. Пойдзем за ім пасочым, ці сапраўды ён пайшоў у вёску па бульбу.

Ліса. Пайшлі.

*Выходзяць. Як толькі Ліса і Баба-Яга пайшлі, Баравічок дастае тэлефон.*

Баравічок *(тэлефануе Вожыку).* Вожык, родненькі мой, ты дзе?

Вожык (*выбягае).* Я тут. А што здарылася?

Баравічок. Ты ведаеш, што Воўк пайшоў у вёску капаць і красці бульбу, а Баба-Яга і Ліса пайшлі за ім сачыць? А потым яны схопяць мяне і кінуць у кацёл.

Вожык. Ды не хвалюйся. Калі яны цябе зрэжуць, паспрабуй ад іх уцячы, а калі не здолееш, то я прыйду на дапамогу.

Баравічок. А калі яны і цябе схопяць, а потым і мяне кінуць у гарачы кацёл? Што будзе?..

Вожык. Я калючы, яны мяне нават у лапы не возьмуць. Так што не турбуйся, будзь спакойны і дэманструй сваю смеласць, як сапраўдны праўдзівы грыб у нашым лесе. Зразумеў?!

Баравічок. Зразумець то зразумеў, але ўсё ж нейкая трывога ёсць. Страшнавата! Ды яшчэ, паглядзі ты, які касцёр распалілі, хоць бы лес не загарэўся. Я вельмі баюся ляснога пажару.

Вожык. Касцёр распалілі, а самі пайшлі ўсе, кінулі вогнішча без нагляду. А калі вецер наляціць і дзьмухне на вогнішча, дык можа загарэцца лес.

Баравічок. І што будзем рабіць?

Вожык. Трэба неяк затушыць касцёр.

Б а р а в і ч о к . Абавязкова трэба. А чым?

В о ж ы к . Там вёдры ляжаць пустыя. Я вазьму два вядры і збегаю набяру вады, а ты сачы за вогнішчам.

*Вожык бярэ два вядры і знікае. А Баравічок сочыць за вогнішчам. Хутка з’яўляецца Вожык з поўнымі вёдрамі вады і пачынае тушыць вогнішча. У гэты час з’яўляюцца Ліса і Баба-Яга. Убачылі Вожыка, які тушыць вогнішча.*

Л і с а . Што ты робіш тут, калючка?

Б а б а - Я г а . Хто табе дазволіў тушыць наш касцёр, а?..

В о ж ы к . Вы хочаце запаліць лес? Ці што?

Л і с а . Не твая справа, калючка! *(Забірае вядро з лап).*

В о ж ы к . Гэта наша агульная справа. Лес – наша жыццё і багацце. Без лесу мы ўсе прападзём.

Б а б а - Я г а . Не твая калючая справа, знайшоўся мне тут эколаг.

В о ж ы к . Ого, ты такое слова разумнае ведаеш – эколаг!.. А ты растлумач нам, што такое эколаг? А?!

Б а б а - Я г а . Гэта такія калючкі, як ты, якія тушаць лясныя кастры і якіх мы ніколі не пачастуем грыбным супам. Зразумеў?!

В о ж ы к . Ды не, Ялюга-Бабалюга! Эколаг – гэта той, хто сочыць за чысцінёй нашай зямлі. Ён вывучае навакольнае асяроддзе, каб такія, як вы, не шкодзілі лясам і жывёлам. Эколагі абараняюць прыроду ад вынікаў навукова-тэхнічнага прагрэсу…

Л і с а . Што, што ты сказаў, калючка? Мы табе зараз тут наладзім прагрэс, мы цябе, калючага эколага, кінем у кацёл!

*У гэты час з’яўляецца Воўк, на плячах у яго паўмяшка бульбы.*

Б а б а - Я г а . Добра, што ты прыйшоў, а то тут знайшоўся нейкі эколаг.

В о ў к *(ставіць мяшок каля кастра).* Хто-хто?

Л і с а . Эколаг.

В о ў к . А што гэта за звер?

Б а б а - Я г а . Гэта Вожык, вось ён. *(Паказвае на Вожыка.)*

В о ў к . Дык я яго зараз з’ем.

В о ж ы к . Не з’ясі, бо я калючы, калючкамі ўвесь свой рот сапсуеш.

*Да катла нечакана падыходзіць Баравічок з тэлефонам. Воўк, Ліса і Баба-Яга здзіўлена на яго глядзяць.*

В о ў к . А вось і Баравік з-пад зямлі сам узнік.

Л і с а . Сам прыйшоў да нас.

Б а б а - Я г а . Але ж у катле вада халодная, касцёр патух. Што цяпер будзем рабіць?

Б а р а в і ч о к *(кажа, каб неяк пацягнуць час).* Вазьмі тэлефон. Я ўжо падрос, здолеў выскачыць з зямлі без дапамогі, і сам магу залезці ў кацёл, я не баюся.

В о ж ы к . І я не баюся катла і вады.

Б а р а в і ч о к . А вы ўсе – баязліўцы. *(Паказвае на Лісу, Бабу-Ягу і Ваўка.)*

Л і с а . Мы таксама нікога і нічога не баімся.

Б а б а - Я г а . Не баімся і катлоў з вадой.

В о ж ы к . І ты баязлівец, Воўк.

В о ў к . Я... я... я нікога не баюся ў гэтым лесе. Не баюся і катла з вадой, я там ужо быў!

Б а р а в і ч о к . А дзе ты бульбы ўзяў?

В о ў к . Накапаў у агародзе.

Б а р а в і ч о к . Ты накапаў у сваім агародзе ці ў чужым?

В о ў к . Няма ў мяне агарода. І ніколі не было. Накапаў у вёсцы ў чужых агародах.

В о ж ы к . Дык вы рабаўнікі і злодзеі, вы прыносіце толькі шкоду і лесу, і вёскам.

Б а б а - Я г а . Мы вас не баімся!..

В о ж ы к . Пачакайце крыху, я вам нешта пакажу. *(Знікае.)*

В о ў к . А што ён нам хоча паказаць?

Л і с а . Зараз пабачым. А ты *(звяртаецца да Баравічка)* рыхтуйся ў кацёл лезці, будзем з цябе суп варыць.

Б а р а в і ч о к . Я нікуды не палезу.

Л і с а ,  В о ў к  і  Б а б а - Я г а  р а з а м . Палезеш, палезеш, нікуды ты не дзенешся, і Вожык цябе не выратуе.

В о ў к . А мы і Вожыка туды закінем. *(Смяецца.)*

*Вяртаецца Вожык. У лапах ён трымае стрэльбу.*

В о ж ы к . Вы ведаеце, што гэта?

Л і с а ,  В о ў к  і  Б а б а - Я г а  р а з а м  *(спалохана)*. Ведаем, гэта паляўнічая стрэльба.

В о ж ы к . Дык вось, я збегаў у лясную ахову і папрасіў у іх стрэльбу, каб вас застрэліць. А праз некалькі хвілін сюды прыедзе ўся лясная ахова і вас арыштуе, калі я не паспею выстраліць.

Б а б а - Я г а . За што?

Л і с а . Што мы дрэннае зрабілі?

В о ў к . Навошта нас так адразу?..

Б а р а в і ч о к . Спачатку вы хацелі мяне з’есці, потым прыцягнулі гэты кацёл, потым без дазволу распалілі

вогнішча, потым вады нацягалі, а Воўк залез у чужы агарод і бульбы накапаў…

Вожык. Шкоднікі вы лясныя!.. *(Са стрэльбы страляе ўверх. Усе спалохаліся.)*

Баравічок. Мы вам гэтага не даруем.

Вожык. У лесе трэба ўсім жыць дружна, паважаць адзін аднаго, не крыўдзіць…

Ліса, Воўк і Баба-Яга разам. Мы болей не будзем шкодзіць. Мы проста есці хочам…

Вожык *(Ваўку)*. А ну вярні Баравічку яго тэлефон…

Воўк *(аддае тэлефон Баравічку)*. Вазьмі свой тэлефон, я ўсё роўна ім не ўмею карыстацца.

*У гэты час у Баравічка зазваніў тэлефон.*
*Баравічок бярэ трубку.*

Баравічок. Алё. Слухаю вас. Гэта Баравічок. Так-так, Вожык побач са мной. *(Перадае трубку.)*

Вожык. Слухаю вас уважліва… Дзякуй, дзякуй. Мы ўсе будзем вельмі рады. Дзякуй. Дзякуй. Да пабачэння…

Баравічок. За што ты дзякаваў і каму?

Вожык. Мне патэлефанавалі і сказалі, што ў нашым лесе хутка пачне працаваць лясная сталоўка для ўсіх звяроў і птушак. І ўсе там будуць бясплатна харчавацца. Вось так.

Ліса, Воўк і Баба-Яга разам. І мы таксама?..

Вожык. Вы – не, бо вы злодзеі і ашуканцы.

Ліса. Мы больш не будзем падманваць нікога, а таксама красці нічога не будзем. Паверце нам…

Воўк і Баба-Яга разам. Абяцаем, што не будзем.

В о ж ы к . Добра. Забірайце гэты кацёл і крышку і аднясіце туды, дзе бралі. А ты, Воўк, занясі бульбу туды, дзе без дазволу накапаў. І папрасі там прабачэння.

Б а р а в і ч о к . А потым мы вас завядзём і пакажам, дзе знаходзіцца лясная сталоўка і дзе можна харчавацца.

Л і с а, В о ў к і Б а б а - Я г а р а з а м *(узрадаваліся)*. Добра-добра. Мы ўсё зараз зробім.

*Воўк закідвае мяшок на плечы і знікае.*
*Баба-Яга і Ліса (ім дапамагаюць Вожык і Баравічок)*
*з паляны выкочваюць кацёл. І знікаюць.*
*Застаюцца Баравічок і Вожык.*

В о ж ы к . Вось колькі прыгод адбылося вакол цябе, Баравічок.

Б а р а в і ч о к . Верыцца, што больш іх не будзе. І ўсе мы будзем паважаць адзін аднаго, слухаць і дапамагаць. Любіць лясную цішыню, спакой і парадак.

В о ж ы к . Як у песні, якую зараз праспяваем.

В о ж ы к і Б а р а в і ч о к *(разам спяваюць песню):*

Як добра жывецца звярам у бары,
Да нас завітайце вы ў госці, сябры.
Тут ягад багата, багата грыбоў –
Лес шчодра адорыць і нас, і сяброў.

*Прыпеў:*

Усіх лес пацешыць заўжды ад душы,
Напоўніць грыбамі вашы кашы.
І сонца засвеціць прыветліва, ярка –
А казачка наша вам будзе падзякай…

З А С Л О Н А.

# Зачараваная хатка[1]

П'еса-казка ў дзвюх дзеях
па матывах твораў графіні дэ Сэгюр

*Дзеючыя асобы:*

Прудан – багацей, вельмі асцярожны і загадкавы мужчына
Разалі – яго дачка, добрая і даверлівая
Мыш – мярзотная варажбітка
Каралева фей
Кабета
Прынц
Губэр – галоўны дарадца Прынца

## Дзея першая

*На задніку сцэны віднеецца імправізаваны дом. Паабапал яго растуць прыгожыя дрэўцы. Клумба з кветкамі. На авансцэне – лаўка. З левага боку сцэны – хатка са свірнавым замком на дзвярах. Амаль пасярэдзіне сцэны – стол. На ім стаіць збан.*

*З'яўляецца Разалі. Яна палівае з лейкі кветкі і спявае.*

Разалі:

Вада, вада, вадзіца
Струменьчыкам цячэ,
Дай кветачкам напіцца
Яшчэ, яшчэ й яшчэ.

[1] П'еса напісана ў суаўтарстве з гомельскім драматургам Васілём Ткачовым (1948–2022).

Дай кветачкам падняцца
Да сонейка вышэй,
Нікога не баяцца,
Апроч старых мышэй…

Голас Мышы *(кліча).* Дзяўчынка? Га, дзяўчынка?

Разалі. Гэта мяне хто клікаў? Ці падалося?

Голас Мышы. Не, табе не падалося. Гэта я цябе клікала…

Разалі. А хто ты? *(Падбягае да дзвярэй хаткі.)* І што ты там робіш, за гэтымі тоўстымі дзвярыма?

Голас Мышы. Ой, доўга расказваць… А ты прыгожа так спявала, між іншым. Вельмі прыгожа. Ажно заслухалася я і расчулілася… нават вось слёзы прамакаю… Шкада, ты не бачыш…

Разалі. Дык хто ты нарэшце? І як трапіла за дзверы нашай хаткі?

Голас Мышы. Цяжка мне гаварыць. Кожнае слова цяжка даецца…

Разалі. Што яшчэ за фокусы?! Нічога не зразумею! Гаварыць – і цяжка? Хіба такое можа быць?

Голас Мышы. У роце зусім перасохла… голад адужаў… Знясілела я… Лепш прынясі мне чаго-небудзь паесці… я вельмі галодная… І абавязкова не забудзь узяць збанок вады… Смага мучыць – даўно і кропелькі вады ў роце не было…

Разалі. Хоць ты і не прызнаешся, хто такая… але бачу, што трапіла ў бяду, і мне, як сумленнай дзяўчынцы, належыць табе дапамагчы…

Голас Мышы. Зрабі ласку, добрая дзяўчынка. Зрабі. Тваёй дабрыні я ніколі не забуду… *(Загадкава.)* А калі прынясеш мне ежу і ваду, тады і ўбачыш, хто я такая…

Разалі. Добра… Але пачакай! А як я падам табе ежу і збанок з вадой, калі ў гэтай хатцы няма ніводнага акенца, а дзверы на вялікім свірнавым замку?

Голас Мышы. Нас ніхто не падслухоўвае?

Разалі. Не. Мы адны тут.

Голас Мышы. У цябе злы і нехарошы бацька…

Разалі. Няпраўда!

Голас Мышы. Гэта для каго як… Для цябе – добры. Для мяне – паскуднік.

Разалі. Перастань такое гаварыць! А то я зараз жа пайду!..

Голас Мышы. Не, не, татка ў цябе добры… ён муху не пакрыўдзіць…

Разалі. Хопіць ліслівіць. Дык гэта ён цябе замкнуў у хатцы? Так?

Голас Мышы. А хто ж? Хіба ж ёсць тут паблізу другі такі злыдзень, як твой татка?

Разалі. Зноў?!

Голас Мышы. Піць… есці… піць… есці…

Разалі. А за што ён так? Нашкодзіла, мусіць, дзе?

Голас Мышы. Каб жа! Божа барані! Ні за што ўзяў і пасадзіў у гэтую хатку без вокнаў.

Разалі. Так не бывае, каб ні за што.

Голас Мышы. Не бывае, згодна, а са мной менавіта так атрымалася.

Разалі. Што ж рабіць? Ну, падумай, як я перадам табе ежу? Не шкада. У нас усё ёсць. Жывём мы адны,

я і татка… нават наймічку не трымаем… каб на яе не траціцца, пэўна… А мама памерла…

Голас Мышы. Спачуваю… паслухай, а ключ для чаго, а? Ключ?

Разалі. Канешне, калі б быў у мяне ключ – і размоў не вялося б.

Голас Мышы. Ну, дык у чым справа? Дзейнічай!

Разалі. Яго тата нікому не дае, ён нават спіць з ключом.

Голас Мышы. Не можа такога быць, каб нельга было ўкрасці ў таткі ключ! З кожнага становішча, нават самага складанага, заўсёды ёсць выйсце. Я б украла. Вызвалі мяне, дзяўчынка. Калі не вызваліш, я памру, і тады на нашай вялікай і круглай зямлі будзе яшчэ больш на адну ахвяру… Ты гэтага хочаш?

Разалі. Добра, чакай, я што-небудзь прыдумаю. *(Адышла ад хаткі. Спалохана.)* Татка ідзе? *(Схавала лейку.)*

*З'яўляецца Прудан.*

Прудан. Разалі!

Разалі. Што, тата?

Прудан. Ты чым тут займаешся?

Разалі *(разгублена)*. Я?

Прудан. Так. Ты, ты.

Разалі. Хацела вось кветкі паліць, а лейка, мусіць, вунь у той нашай старэнькай хатцы? А больш яе нідзе няма… Нідзе-нідзе. Усюды шукала.

Прудан. Ну, па-першае, хатка зусім і не старэнькая, а па-другое, хлусіць дарослым нельга.

Р а з а л і . Я хіба няпраўду сказала?

П р у д а н . Ты ж толькі што палівала кветкі. На іх яшчэ вунь кроплі вады не высахлі… на сонейку блішчаць…

Р а з а л і . Даруй, тата.

П р у д а н . Але болей не хлусі мне. Дамовіліся?

Р а з а л і . Ага. Ты некуды сабраўся?

П р у д а н . Я хутка вярнуся. За дваром назірай уважліва. Чужым не адчыняй дзверы… Нікому нічога не давай… Я табе ўжо не першы раз пра гэта напамінаю… Запомніла?

Р а з а л і . Тата!

П р у д а н . Што, дачка?

Р а з а л і . Я ў цябе даўно пацікавіцца хацела.

П р у д а н . Слухаю.

Р а з а л і . А чаму на дзвярах у хатку такі вялізны замок? І чаму ты ніколі не хочаш паказаць мне, што ў ёй знаходзіцца?

П р у д а н . Ды нічога такога, што асабіста цябе там можа зацікавіць. Хатка як хатка.

Р а з а л і . Але чаму сам ты ходзіш туды кожны дзень, а мне дык ніколі не дазваляеш пайсці ў хатку разам з табой? Чаму?

П р у д а н . Разалі, ты ж ведаеш, што я не люблю розных пытанняў. Тым больш, што празмерная дапытлівасць іншы раз – вялікая загана.

Р а з а л і . Тата, я бачу, што ты ўсё ж вельмі ўсхваляваны, устрывожаны. Супакойся, калі ласка.

Я ўжо дарослая, а не маленькая дзяўчынка, таму абяцаю ва ўсім і заўсёды слухацца цябе.

П р у д а н . Дзякуй, Разалі. Спадзяюся, што твае словы ідуць ад чыстага сэрца. У мяне ёсць вельмі добрая і прыемная навіна.

Р а з а л і . І што гэта за навіна, татачка, калі не сакрэт?

П р у д а н . Ды ні сакрэт, дачушка. Проста табе праз тры тыдні споўніцца пятнаццаць гадоў. Таму я табе на дзень нараджэння, на твой маленькі юбілей, абяцаю зрабіць прыемны сюрпрыз.

Р а з а л і . Дзякуй табе, тата. А я зусім забылася, што мне хутка споўніцца пятнаццаць гадкоў!

П р у д а н . А цяпер, калі ласка, паслухай мяне ўважліва. Я вымушаны хутка пакінуць цябе на некаторы час. Мне трэба падрыхтаваць падарунак табе на дзень нараджэння. А ты будзь дома і чакай мяне. І абавязкова будзь паслухмянай і не давай волі сваёй цікаўнасці.

Р а з а л і . Добра, тата. Я буду паслухмянай…

П р у д а н . Абяцаю, што праз некалькі тыдняў ты даведаешся пра ўсё-ўсё, аб чым табе хочацца ведаць: я ўмею чытаць твае думкі і ведаю, аб чым яны. А цяпер мне неабходна з табой развітацца. Толькі вельмі прашу: сцеражыся сваёй зацікаўленасці.

*Прудан ласкава цалуе дачку, абдымае яе і пакідае сцэну.*

Р а з а л і *(загадкава).* Цікава, а ключ ад хаткі татка забраў з сабой? А мо забыўся? Калі ён мне так моцна давярае, то, магчыма, на гэты раз зусім і не забыўся, а проста не ўзяў яго… *(Таксама знікае.)*

*У хатцы.*

М ы ш *(пяе):*

Я пад замком, гаротная,
Сяджу адна, самотная,
Загіну я ў няволі,
Не выйсці мне ніколі.

*Прыпеў:*

Хачу-хачу на волю –
Я праклінаю долю,
Дамоў хачу, паверце,
Бо я баюся смерці.

М ы ш . Як я дзяўчынку абвяла вакол лапкі, а? То-та ж! Што значыць не першы год жыву. Калі дзяўчынка кветкі палівае і такія ласкавыя, пяшчотныя песні спявае, то яна – добрая дзяўчынка, адразу відаць, таму яе лёгка абхітрыць, у зман увесці. Што я і зрабіла выдатна. Калі б не ежу папрасіла і не вады, то яна, мусіць, і засумнявалася б… А так лустачку хлеба і глыток вады добры чалавек галоднаму ніколі не пашкадуе… Чым і ўзяла. Ну дзе там яна, мая вызваліцельніца? Эй, дзяўчынка-а-а! Ну дзе ты там? Колькі можна цябе чакаць? *(Сама сабе.)* Што гэта я? Цішэй трэба клікаць, а то здагадаецца пра ўсё і не адамкне. Мабыць, ключ шукае? А мне так хочацца на волю!..

М ы ш *(пяе):*

Я пад замком, гаротная,
Сяджу адна, самотная,
Загіну я ў няволі,
Не выйсці мне ніколі.

*Прыпеў:*

Хачу-хачу на волю –
Я праклінаю долю,
Дамоў хачу, паверце,
Бо я баюся смерці.

*На панадворак выбягае Разалі. У руках – вузельчык з ежай, з якога тырчыць рыльца бутэлькі.*

Р а з а л і *(азіраецца па баках).* Тата забыўся ключ ад зачараванай хаткі! Нарэшце мая мара здзейсніцца – я пабуду ў ёй, у хатцы!.. (*Ад радасці танчыць і спявае):*

Ключык ад хаткі,
Ключык ад хаткі
Ў мяне ўжо ў руках.
Я не паслухаюся татку;
Хатка – яшчэ не страх.

*Прыпеў:*

Адчыню замочак –
Хто там ёсць, спытаю,
Цёмненькі куточак
У хатцы адшукаю.
А калі ў куточку
Нехта там бядуе,
Адпушчу на волю –
Хай ён не сумуе.

Р а з а л і *(падбягае да хаткі, але раптам спыняецца. Прыслухоўваецца, хвалюецца).* Што ж гэта я раблю?.. Я ж абяцала тату быць паслухмянай, а сама?.. Нельга так рабіць, я ж абяцала… Як жа мне быць?

*То вяртаецца назад, то падбягае да хаткі з ключом, то зноў вяртаецца. Раптам з хаткі даносіцца сумная песенька. Разалі спыняецца і здзіўлена слухае песню.*

Мыш *(пяе):*

Я пад замком, гаротная,
Сяджу адна, самотная,
Загіну я ў няволі,
Не выйсці мне ніколі.

*Прыпеў:*

Хачу-хачу на волю –
Я праклінаю долю,
Дамоў хачу, паверце,
Бо я баюся смерці.

Разалі *(да гледачоў).* Што ж мне рабіць? Хто параіць? Я ж абяцала ёй ежу, ваду… Абяцала, так… Але ж там жывая істота, якую я ніколі не бачыла і якая просіць у мяне дапамогі. Выскачыць яна з хаткі… варта толькі адчыніць дзверы… і, можа, не “дзякуй” табе скажа, а, наадварот, надае кухталёў, у валасы ўчэпіцца… Хто ж ведае, можа, якая пачвара там?

Голас Мышы *(буркліва-нахабна).* Дык што ты стаіш там, як сухое дрэва ў лесе, і ніякай ад цябе карысці? Адмыкай! Ключ жа, чула, у цябе.

Разалі. А… а ты не можаш сказаць у рэшце рэшт – хто ты?

Голас Мышы. Ну, Мыш я, Мыш. Гэтага табе дастаткова? Што табе незразумела?

Разалі. Цяпер мне ўсё ясна. Там, у зачараванай хатцы, сядзіць няшчасная нябога, якую пасадзіў пад замок мой тата.

Голас Мышы *(жаласліва).* Адамкні дзверы, Разалі. Злітуйся нада мной, адамкні, адпусці мяне на волю, няшчасную.

Разалі. Але чаму цябе пасадзілі і трымаюць пад замком? Можа, ты здзейсніла нейкае злачынства ці зладзейства?

Голас Мышы. Што ты, што ты, Разалі. Не-не-не. Мяне тут трымае адзін чарадзей. Але калі ты мяне выратуеш, то ў знак падзякі за гэта я раскажу ўсю чыстую праўду.

*Разалі вагаецца, неяк разгублена падыходзіць да дзвярэй,*
*асцярожна ўсоўвае ключ у замок, але не адчыняе.*
*Са страху ў яе трасуцца рукі, хвалюецца.*

Разалі. Што ж мне рабіць?.. Калі я вызвалю вязня, то тады не стрымаю слова, якое дала тату. А калі не адчыню і не вызвалю вязня, то будзе сорамна перад тым, хто там сядзіць.

Голас Мышы. Разалі, тое, што я скажу, навучыць цябе вельмі многаму, асабліва таму, што цябе асабліва зацікавіць: твой бацька зусім не такі, якім ты яго ўяўляеш.

Разалі. Як не такі?

Голас Мышы. Так, не такі, а зусім іншы…

Разалі *(расхваляваная, з апошняе сілы налягае на ключ).* Ах, вось яно што!.. *(Адчыняе дзверы.)* Я прынесла табе тое, што ты прасіла. Вазьмі ежу.

М ы ш *(выходзіць з хаткі, адпіхнуўшы ў бок дзяўчынку, пераможна).* Мне ўсё ж удалася мая хітрасць. Ты паддалася сваёй дапытлівасці. Калі б я не прасіла ў цябе ежы і вады… *(вырывае вузельчык у Разалі, прагна п’е, есць)* ды не спявала і, наогул, маўчала, то ты, напэўна, вярнулася б назад. І тады мне быў бы канец. Але цяпер, калі ты мяне вызваліла, – і ты, і твой бацька будзеце падпарадкоўвацца мне, будзеце жыць пад маёй уладай!..

Р а з а л і . Я цябе не пушчу з гэтай хаткі!.. *(Імкнецца запіхнуць Мыш зноў у хатку.)*

М ы ш *(кпліва)*. Ха-ха-ха. Супакойся, Разалі. Цяпер у цябе не хопіць сіл трымаць мяне ў гэтай хатцы, у гэтай цёмнай вязніцы. Я ніколі не выбралася б адсюль, калі б табе не спаўнялася пятнаццаць гадоў. *(Мыш адыходзіць ад хаткі, махае лапамі, і хатка ўмомант развальваецца.)*

Р а з а л і . Ой! Што ж мне будзе?!

М ы ш . Хі-хі-хі! Якая ж ты палахлівая, Разалі! Адно выдатна, за што хвалю: ты вельмі добрая, паслухмяная, дапытліва-цікаўная. Амаль пятнаццаць гадоў я сядзела ў гэтай цёмнай хатцы-вязніцы і не магла нічога зрабіць кепскага твайму ненавіснаму бацьку і табе. Ых-х! А цябе я таксама ненавіджу! Ненавіджу таму, што ты яго дачка!

Р а з а л і . Але хто ты, злосная Мыш?

М ы ш . Я – вораг тваёй сям’і, мая любачка! Мяне клічуць мярзотная варажбітка. І можаш паверыць, мне нездарма дадзена такое імя. Усе ненавідзяць мяне, а я ненавіджу ўсіх. І цяпер, Разалі, я буду хадзіць за табой паўсюль: куды ты – туды і я. Зразумела?!.

Разалі *(моцна крычыць)*. Адчапіся ад мяне, мярзотная Мыш! Ты ўсё роўна мяне не спалохаеш! І я абавязкова прыдумаю, як ад цябе пазбавіцца.

Мыш *(са злосцю)*. Гэта мы яшчэ пабачым, мая любачка! Куды б ты ні пайшла, я не адстану ад цябе ні на крок. *(Ходзіць за Разалі.)*

Разалі (*кідаецца, уцякае, але азіраецца і бачыць, што Мыш не адстае)*. Ах ты, нягодніца! Ну, пачакай! Я табе зараз пакажу! *(Хапае дзяркач і замахваецца на Мыш. Мыш махае лапай, і дзяркач вылятае з рук Разалі.)* Ах ты, пачварная Мыш! *(Разалі хапае са стала збанок з малаком, але і ён падае на падлогу. Малако разліваецца.)*

Мыш *(хлебча малако з падлогі)*. Якая ты добрая, Разалі! Мала таго, што вызваліла мяне, хлеба дала і вадой напаіла, дык яшчэ смачна частуеш малачком. Ой, і смачна! Ніколі так не ела!

*Разалі плача. За сцэнай чуюцца бацькавы крокі.*

Разалі. Гэта мой тата вяртаецца. О, Мыш, калі ласка, злітуйся, пайдзі адсюль куды-небудзь, каб тата мой цябе не бачыў. Ён не даруе мне, што я цябе выпусціла. Пашкадуй!

Мыш *(нахабна)*. Нікуды я не пайду, зразумела?.. Але пашкадую цябе, угаварыла, схаваюся за дрэвам, каб толькі паглядзець, як твой бацька раззлуецца, калі выявіць тваю непаслухмянасць.

*Мыш хаваецца за дрэва.*

Р а з а л і *(пяе):*

На душы ў мяне трывога,
Сумна на душы.
Каля роднага парога
Мыш схавалася ў цішы.

*Прыпеў:*

Мярзотная Мыш, не хачу цябе бачыць,
Не хачу цябе чуць, не хачу размаўляць.
А з татам я жыць не магу тут іначай –
Мы добра жылі, нас не трэба пужаць.

*Заходзіць стары Прудан.*

П р у д а н *(здзіўлена)*. Што здарылася, Разалі?.. Чаму ты заплаканая? Відаць, цябе хто напалохаў, пакрыўдзіў?

Р а з а л і. Нічога не здарылася, тата. Усё добра. Проста я ганяла ката і ненарокам дзеркачом трапіла ў збанок з малаком. Збанок упаў і вылілася малако.

П р у д а н *(становіцца на калені перад Разалі і дрыготкім голасам пытае)*. Разалі, ты мне кажаш няпраўду, хлусіш. Калі я выходзіў, то забыўся ўзяць ключ ад зачараванай хаткі. І ты знайшла яго. Так?..

Р а з а л і *(дастае ключык)*. Так, тата. Вось ён.

П р у д а н. Вазьмі цяпер сабе гэты ключ. Калі няма хаткі, то навошта ён? Эх, Разалі, Разалі, дачушка няшчасная мая, што ты нарабіла? Ты паддалася сваёй злачыннай дапытлівасці, зацікаўленасці. З-за гэтага ты выпусціла на волю нашага самага лютага ворага!

Разалі *(кідаецца бацьку ў ногі)*. Татачка, даруй мне, родны мой! Я ж зусім не ведала, што гэтым сваім учынкам зраблю дрэнна сабе і табе. Ей-Богу, я зусім нічога не ведала. Шчыра кажу, татачка, родненькі мой!..

Прудан. Так заўсёды бывае з тымі, хто не слухаецца бацькоў, Разалі. Дзеці думаюць, што калі і робяць дрэнна, дык толькі трошкі, а ў рэшце рэшт атрымліваецца з гэтага – вялікае гора і шмат праблем і сабе, і іншым. *(Прудан сядае і садзіць побач Разалі, абдымае яе.)*

Разалі. Але, тата, што гэта за Мыш такая, і чаму ты яе гэтак баішся? А?.. Калі яна такая магутная, дык як ты здолеў так доўга трымаць яе пад замком? Скажы, калі ласка!

Прудан. *(Увесь час, калі ён распавядае Разалі, Мыш слухае і па-рознаму рэагуе.)* Гэтая Мыш, дачушка, – злая і магутная варажбітка. А сам я – чарадзей Прудан. І калі ты ўжо выпусціла майго ворага, то я цяпер магу расказаць табе ўсю чыстую праўду, якую хаваў ад цябе пятнаццаць гадоў. Дык вось, як я ўжо казаў, я – чарадзей. А твая маці была звычайная смяротная. Але яе добры характар і прыгажосць так спадабаліся Каралеве фей і Каралю чарадзеяў, што яны дазволілі мне на ёй ажаніцца. На вяселле я запрасіў шмат гасцей, але на бяду сваю забыўся запрасіць мярзотную варажбітку. А яна і без таго вельмі злавалася, што я выбраў звычайную прынцэсу і не захацеў ажаніцца з яе дачкой. І таму яна дала клятву люта адпомсціць маёй жонцы і дзецям. Але яе пагрозы мяне не спалохалі, бо я быў амаль такі ж магутны, як і яна. І апрача ўсяго, да мяне мела ласку

Каралева фей. Шмат разоў я сваімі чарамі не даваў здзейсніцца помсце мярзотніцы, маіх сіл хапала. Але пасля твайго нараджэння твая маці адчула сябе вельмі нядобра, толькі я быў ужо няздольны ёй дапамагчы.

Р а з а л і . І што здарылася з маёй мамай? Дзе мая мама?

П р у д а н . Тады я на хвілінку адлучыўся, каб паклікаць на дапамогу Каралеву фей, а калі вярнуўся, то мамы тваёй ужо не было.

Р а з а л і . Што, што здарылася з мамай?

П р у д а н . Злая варажбітка выкарыстала момант маёй адсутнасці і… забіла тваю маму, а цябе хацела зачараваць найгоршымі заганамі на свеце. *(Разалі плача.)* На шчасце, маё вяртанне не дазволіла здзейсніцца яе злым чарам. Я паспеў спыніць мярзотніцу ў той самы момант, калі яна зачаравала цябе дапытлівасцю. Праз сваю дапытлівасць ты ў пятнаццаць гадоў павінна была падпасці пад яе поўную ўладу. Але Каралева фей і я аб'ядналіся ў агульную сілу. Было вырашана, што і я траплю пад варажбіткіну ўладу тады, калі да пятнаццаці гадоў ты не пройдзеш выпрабаванне – тройчы не саўладаеш са сваёй дапытлівасцю. Разам з гэтым рашэннем Каралева фей пакарала мярзотніцу, ператварыўшы яе ў шэрую Мыш і зачыніўшы ў той хатцы, якую ты бачыла. Пры гэтым Каралева абвясціла, што варажбітка не зможа выйсці з хаткі да таго часу, пакуль ты сама да пятнаццаці гадоў не дасі волі сваёй зацікаўленасці і не адчыніш дзверы. Мярзотніца атрымае свой ранейшы выгляд, калі ты тройчы не здолееш стрымаць зацікаўленасці. А калі ты хоць раз устрымаешся, то

назаўсёды вызвалішся сама і вызваліш мяне. А калі ты тройчы памылішся, то мы з табой назаўжды застанёмся рабамі мярзотніцы. Таму я трымаў яе ў зачараванай хатцы і нават не меў права трымаць дома слуг.

Разалі. А чаму ты мяне раней аб гэтым не папярэдзіў?

Прудан. Так пажадала Каралева фей. Менавіта таму я быў вымушаны пакласці на стол ключы і адлучыцца на адну гадзіну. Гэта і было выпрабаванне. Калі б я гэта не зрабіў, то мы вымушаны былі б развітацца на ўсё астатняе жыццё. Уяві, Разалі, як я пакутаваў усю тую гадзіну. Ты думаеш, я не здагадаўся, што здарылася, калі ўбачыў твой заплаканы твар?

Разалі. І што нам цяпер рабіць?

Прудан. Не хвалюйся. Не ўсё яшчэ страчана. Ты можаш выправіць сваю віну, калі за гэтыя тры тыдні да твайго дня нараджэння хоць раз устаіш перад варажбіткінымі чарамі. У пятнаццаць гадоў ты павінна заручыцца з чароўным Прынцам. І гэтыя заручыны яшчэ магчымы... *(Прудан цалуе дачку.)* Ах, дзіця маё мілае, пашкадуй, калі не мяне, то хоць саму сябе. Набярыся мужнасці і, калі ласка, не будзь такой дапытлівай і даверлівай.

Разалі *(хавае твар у далоні і горка плача)*. Татачка, родненькі, я клянуся табе, што выпраўлю сваю памылку, сваю віну, але не пакідай мяне болей адну. Побач з табой у мяне на ўсё хопіць мужнасці, а без цябе я баюся, я губляюся, мужнасці зноў можа не хапіць.

Прудан. Ах, Разалі, на жаль, я больш не магу заставацца з табой. Цяпер я ва ўладзе мярзотнай варажбіткі,

свайго лютага ворага, а яна ніколі не дасць згоды, каб я быў побач з табой і засцерагаў цябе ад яе вераломства. Мне нават дзіўна, чаму дагэтуль яе нідзе не бачна, а ёй жа было б вельмі прыемна паглядзець на нашу бяду, на маю скруху.

Мыш *(выбягае з-за дрэва і прарэзліва крычыць)*. Я тут, я тут каля ног тваёй любай дачкі! Мне было вельмі забаўна паслухаць пра пакуты, якія я вам прынесла. Таму я і не паказвалася, каб даць табе скончыць твой маналог, аповед пра тваю крыўду. А цяпер развітвайся са сваёй даражэнькаю Разалі. Я забіраю тваю прыгажуню з сабой і забараняю табе ісці з намі. Зразумеў?!

*Мыш хапае Разалі і цягне яе ад бацькі. Разалі ўсімі намаганнямі імкнецца супрацьстаяць. Прудан хапае кіёк і замахваецца на Мыш. Але Мыш пры дапамозе сваёй магутнасці зачароўвае Прудана. І той нерухома падае.*

Разалі. Злітуйся, ажыві майго татку!

Мыш. Хадзем-хадзем, мая любачка. Табе яшчэ двойчы трэба паддацца тваёй мілай зацікаўленасці, дапытлівасці. Але гэта будзе не тут, а ў іншым месцы. За тры тыдні, што засталіся да твайго дня нараджэння, мы з табой шмат дзе пабываем і я шмат чаго табе пакажу. Давай-давай, рухайся, мая любачка!.. (З *усяе сілы цягне Разалі, тая не хоча ісці, упіраецца.)*

Разалі. Бывай, мой дарагі тата! Мы абавязкова ўбачымся праз тры тыдні. Твая Разалі прынесла табе шмат гора, але яна выратуе цябе, абяцаю, родны мой татачка. Я выратую цябе-е-е!.. *(Разалі і Мыш пакідаюць сцэну.)*

## Дзея другая

*Па ўсёй сцэне стаяць дрэвы. З левага боку ад гледачоў бачны палац чароўнага Прынца. Па лесе не спяшаючыся ідзе Кабета, трымаючы ў руках кошык, і нешта напявае ціхенька. Насустрач ёй выходзіць зморaная, у запэцканым адзенні Разалі, а ззаду цягнецца Мыш. (Кабета, Разалі і Мыш могуць ісці перад закрытымі кулісамі ці ў зале перад гледачамі.)*

Р а з а л і *(да кабеты)*. Добры дзень, цётачка!

К а б е т а *(здзіўлена)*. Добры дзень, мілая незнаёмка. *(Разглядае дзяўчынку.)*

Р а з а л і . Прабачце, калі ласка, цётачка. А ці не маглі б вы даць мне прытулак? Я вельмі змучаная, паміраю ад стомы і голаду. Дазвольце, калі ласка, мне пайсці з вамі і ўвайсці ў ваш дом, адпачыць, паспаць усю ноч.

К а б е т а *(вельмі здзіўлена)*. Але чаму такая прыгожанькая і маладзенькая дзяўчынка адна блукае па лесе? А?.. І чаму гэта за табой такая брыдкая Мыш цягнецца, з такой страшнай пысай?..

Р а з а л і *(азіраецца, крычыць)*. Пайшла прэч ад мяне, мярзотная варажбітка! Ідзі адсюль. Я цябе ненавіджу! Я хачу, каб ты знікла назаўсёды! Ідзі прэч!.. *(Мыш яе не слухае, нікуды не ідзе.)*

К а б е т а *(да Разалі)*. Ведаеш што, юная красуня, ідзі ты сваёй дарогай. Я, на жаль, не даю прытулак невядомым асобам, а таксама нячыстым сілам і тым, хто за імі цягаецца.

Разалі *(плача)*. Цётачка, мілая, я ўжо больш за два тыдні не магу знайсці сабе прытулку. У мяне няма ўжо сіл болей ісці, я змучылася і спаць хачу. Пусціце, калі ласка!..

Кабета. Не-не, дзяўчынка. Ідзі-ідзі сваёй дарогай. Я не хачу наклікаць на сябе і сваю хату бяду. Ідзі-ідзі… *(Кабета прыбаўляе крок, амаль спалохаўшыся, і ўцякае.)*

*Разалі ідзе далей, лягла пад дрэвам і хутка засынае. Мыш бачыць гэта і знікае. Разалі моцна спіць. У гэты час па лесе са стрэльбамі ідуць чароўны Прынц і Губэр. Прынц неўзабаве заўважае пад дрэвам Разалі. Ён хуценька кідае стрэльбу, прысядае каля Разалі і кліча свайго дарадцу.*

Прынц. Губэр, Губэр, хуценька ідзі сюды.

Губэр. Што здарылася? Няўжо табе пашанцавала забіць добрага звера? А?..

Прынц. Ды не, Губэр. На гэты раз мне пашанцавала куды больш і лепш. Вось, паглядзі…

Губэр *(са здзіўленнем)*. Дык гэта ж дзяўчына! І чыя гэта такая прыгажуня? Як яна трапіла адна ў гэты лес? О, Божа!..

Прынц. Пра гэта мы, мабыць, даведаемся пазней. А цяпер давай хуценька зробім насілы. Пакладзём яе на іх і ціхенька аднясём у палац.

Губэр *(разглядае дзяўчыну, любуецца)*. Паглядзі, Прынц, на яе твары сляды ад слёз. Мабыць, яна плакала, яе нехта пакрыўдзіў…

Прынц. Добра. Хопіць пра гэта. Трэба ратаваць дзяўчыну, таму давай хутчэй рабіць насілы.

*Прынц і Губэр робяць насілы.*

Губэр. Прыгожая дзяўчына. Дый па ёй відаць, што яна са знатнага роду. Але найперш вельмі прыгожая, як анёлак.

Прынц. Як мне здаецца, ты не памыляешся. Я сам бачу, што яна прыгажуня. Таму буду сачыць, каб яе слухаліся, выконвалі ўсе яе загады, каб прыслугоўвалі так, як належыць яе сану.

*У гэты момант Разалі пачынае нешта сніць,*
*яна ўсміхаецца і паўшэптам размаўляе.*

Разалі. Тата, мой татачка… Родны мой… Ты абавязкова будзеш уратаваны… Татачка… Каралева фей… Чароўны Прынц… Я бачу яго, ён вельмі прыгожы… Я бачу яго…

Прынц. О, Божа! Яна прамовіла маё імя! Цяпер я зусім не сумняваюся, што яна прынцэса. І што на яе наслалі нейкія злыя чары.

Губэр. Прынц, нам трэба ісці як мага цішэй, асцярожней, каб не разбудзіць яе.

Прынц. Давай насілы. Мы ціхенька і акуратненька пакладзём прынцэсу. Толькі ціха-ціха, каб яна не спалохалася нас…

*Губэр і Прынц кладуць Разалі на насілы і знікаюць.*
*Адразу ж з'яўляецца Мыш.*

Мыш. Так-так-так! Няйначай, у палац панеслі! Знойдзем і там!

Мыш (*спявае*).

Разалі, Разалі!
Ты душу мне разарві,
Разарвала мне душу,
Як схаплю – дык задушу.

*Прыпеў:*

Разалі – мая дзяўчынка,
Ты наіўная пушынка,
Зразумець не можаш ты,
Хутка будуць вам кранты! *(Знікае.)*

*Заслона закрываецца і хутка адкрываецца.*

*Сцэна абстаўлена як унутраныя пакоі палаца.*
*У сцяне, з выглядам на заднік сцэны, зроблена акенца.*
*З левага боку пры сцяне стаіць прыгожы ложак.*
*З правага – уваход у пакой. Разалі прачынаецца.*
*Здзіўляецца. Устае з ложка. Ідзе да акна.*

Разалі *(здзіўлена)*. Няўжо я пазбавілася і ўцякла ад гэтай мярзотнай варажбіткі?.. А можа, я трапіла да варажбіткі больш магутнай за яе? *(Глядзіць у акно.)* І што гэта там за людзі ходзяць па двары? Ой!.. Дзе я? Куды я трапіла? *(Пытаецца ў гледачоў. Гледачы адказваюць: Да Прынца!)*

Разалі *(здзіўлена)*. Да чароўнага Прынца?..

*Гледачы крычаць: “Так. Так!”*

Разалі. Не можа такога быць. *(У гэты момант у пакой уваходзіць чароўны Прынц.)*

Прынц. Добрай раніцы, прыгажуня!

Разалі *(спалохана і здзіўлена)*. Чароўны Прынц?! Добрай раніцы! Сапраўды, гэта вы?

Прынц. Вы ведаеце мяне?

Разалі. Ведаю, чароўны Прынц.

Прынц. Значыць, мы ўжо бачыліся некалі. Так? Але як я мог забыць ваша прозвішча, вашу постаць?..

Р а з а л і *(апусціўшы галаву)*. Прынц, я вас бачыла ў сваіх снах.

П р ы н ц . А як вы трапілі ў лес, хіба вам не было страшна?

Р а з а л і . Я была вымушана пакінуць дом па волі мярзотнай варажбіткі. Можаце ўявіць сабе, як я пакутавала, пакідаючы непрытомнага свайго бацьку. Паганая Мыш прымушала мяне паміраць з голаду і холаду, і ніхто не хацеў пускаць мяне пераначаваць. Але потым я так стамілася, што не змагла ісці далей. Да мяне прыйшоў глыбокі сон, і я заснула. А цяпер апынулася тут, у вашым палацы. Як гэта здарылася – я не памятаю.

П р ы н ц . Зразумела. Вы – тая самая Разалі. Вам бацька казаў калі-небудзь пра Каралеву фей?

Р а з а л і . Казаў. Але акрамя таго, што яна вельмі магутная, я болей нічога пра яе не ведаю.

П р ы н ц . Дык вось, Каралева фей – гэта наша сваячка. Аднойчы яна вырашыла, што пасля таго, як вам споўніцца пятнаццаць гадоў, вы станеце маёй жонкай. Таму я не сумняваюся, што менавіта Каралева фей паслала мне думку пайсці на паляванне, каб я змог знайсці вас у лесе, дзе вы заблукалі. І паколькі да вашага дня нараджэння застаецца зусім мала часу, я ўжо сёння прашу вас лічыць гэты палац сваім і кіраваць у ім, як сапраўдная каралева. Я веру, што хутка і ваш бацька зноў будзе з вамі. І мы ўсе разам дружна зможам адсвяткаваць наша вяселле.

Р а з а л і . Так нечакана ўсё… Я проста не ведаю, што і казаць…

П р ы н ц . Адпачывайце, Разалі. Вы ў поўнай бяспецы.

Р а з а л і . Дзякуй вам, чароўны Прынц. Але зараз, прабачце, калі ласка, я павінна вас на некалькі хвілін пакінуць. Мне неабходна прывесці сябе ў парадак.

*Разалі пакідае сцэну. Да Прынца ў пакой уваходзіць Губэр і трымае ў руках вялікі вазон, накрыты прыгожай каляровай тканінай. Прынц стаіць спінай да ўваходу і не бачыць Губэра.*

П р ы н ц *(паварочваецца).* Калі ласка, Губэр, заходзь.

Г у б э р . Хачу шчыра прызнацца, што да цябе я прыйшоў ад Каралевы фей.

П р ы н ц . Ад Каралевы фей?

Г у б э р . У гэтым вазоне цудоўнае дрэўца, якое ты павінен будзеш падарыць сваёй будучай жонцы. Яго перадала сама Каралева. Але папярэджваю, што Каралева забараніла Разалі да яго падыходзіць, а тым больш дзівіцца і любавацца. І так павінна быць да таго часу, пакуль яна не стане дарослай. А калі Разалі не паслухае і паглядзіць на гэтае дрэўца, можа здарыцца вялікая бяда.

П р ы н ц . Дзякуй, Губэр, можаш не хвалявацца, усё будзе добра. Разалі не будзе глядзець на дрэўца, пакуль не стане дарослай, пакуль ёй не споўніцца пятнаццаць гадоў.

Г у б э р . Я спадзяюся толькі на цябе, мой шаноўны Прынц.

П р ы н ц . Калі болей няма пытанняў, то можаш адпачываць. *(Ставіць вазон пад коўдру.)*

*Губэр пакідае сцэну.*
*Разалі, прыбраная, уваходзіць у пакой да Прынца.*

П р ы н ц . Як вам падабаецца мой палац?

Р а з а л і . Аб такім светлым і прыгожым палацы можна толькі марыць.

П р ы н ц . Я хачу спадзявацца, што ваша мара здзейсніцца.

Р а з а л і *(са здзіўленнем і захапленнем глядзіць на вазон).* Ой! У гэтым палацы столькі цудоўных рэчаў, столькі нечаканасцей, столькі прыгажосці, што ў мяне ажно дух займае.

П р ы н ц . Нічога, Разалі. Вы да гэтага паступова прызвычаіцеся.

Р а з а л і . Скажыце, Прынц, калі не сакрэт, што гэта за расліна ў вазоне? І на дзіва ўсім – чаму яна знаходзіцца пад коўдрай?

П р ы н ц . Скажу па сакрэту, Разалі, што пад коўдрай знаходзіцца дрэўца. Гэта вясельны падарунак, які падрыхтаваны для вас. Але пакуль вы не станеце дарослай, вам нельга гэтае дрэўца бачыць.

Р а з а л і . А што там такое блішчыць пад тканінай?

П р ы н ц . Не магу вам сказаць. Вы даведаецеся пра гэта толькі праз некалькі дзён. І я спадзяюся, што гэты падарунак будзе для вас вельмі нечаканым. І скажу яшчэ, што будзе ён зусім незвычайным.

Р а з а л і . А ці магу я ўбачыць яго раней?

П р ы н ц . Не, Разалі. Каралева фей забараніла мне паказваць яго вам. Бо, калі я вам яго пакажу – здарыцца вялікае няшчасце. Але я спадзяюся, што вы дастаткова моцна мяне кахаеце, каб на некалькі дзён устрымацца, прыхаваць сваю зацікаўленасць і не глядзець, што знаходзіцца пад тканінай.

Р а з а л і . Добра, Прынц. Я болей не буду такой дапытлівай і не буду нават думаць пра таямнічае дрэўца.

П р ы н ц . Дамовіліся. Тым больш, што сёння апошні дзень чакання. Заўтра вам споўніцца пятнаццаць гадоў. З гэтай нагоды я запрасіў з наваколля ўсіх чараўніц. І нават Каралеву фей. Таму чакаць засталося зусім мала часу. А цяпер, паважаная Разалі, я вымушаны вас пакінуць: у мяне яшчэ ёсць некалькі нявырашаных праблем. Жадаю вам прыемна правесці час.

*Прынц пакідае сцэну.*

*Музычная карцінка.*

Р а з а л і (*падыходзіць да вазона).* Нарэшце я заўтра даведаюся, што гэта за дрэўца. *(Шчаслівa і ўпэўнена.)* Дый каб вельмі захацела, то магла б даведацца пра гэта і сёння… бо тут пад тканінай такія дзіркі, што я лёгка і спакойна магу нават прасунуць некалькі пальцаў… а калі трохі пацягнуць… ніхто ўсё роўна пра гэта не даведаецца… то можна і паглядзець. А потым папраўлю тканіну, і ўсё будзе шыта-крыта… Так хочацца паглядзець… Тым больш, што заўтра гэта ўсё роўна будзе маё, дык чаму б мне не заглянуць пад коўдру сёння?.. А? Хочацца, вельмі хочацца паглядзець, што там…

*Разалі азіраецца навокал. Потым прасоўвае пальцы ў дзірачку ў тканіне, тканіна рвецца. Калі яна пачынае рвацца – уся сцэна заліваецца чырвоным святлом. Разалі спінай адступае на авансцэну. На яе вачах развальваецца Прынцаў палац, а потым чуюцца страшныя енкі Прынца. На сцэну выходзіць акрываўлены Прынц, ён увесь у лахманах, спалоханы… (Можна прымяніць іншыя сцэнічныя эфекты).*

Р а з а л і *(спалохалася, калі ўбачыла Прынца)*. Ой, што я нарабіла?!.

П р ы н ц . Ай, Разалі, Разалі!.. Няўдзячная Разалі!.. Бачыш, што ты зрабіла з маім палацам? Цяпер, калі ты гэта натварыла, я не сумняваюся, што ты і трэці раз паддасіся сваёй зацікаўленасці і асудзіш на вялікае гора і мяне, і сябе, і свайго бацьку. Бывай, Разалі, і няхай пакаянне акупіць тваю дапытлівасць і няўдзячнасць. Хоць я табе заўсёды жадаў і жадаю толькі дабра. *(Прынц выходзіць.)*

Р а з а л і *(падаючы на калені, пачынае плакаць)*. Чароўны Прынц, даражэнькі мой, вярніся і даруй мне ўсё гэта.

*Калі Разалі плача, да яе падыходзіць Мыш.*
*Мыш смяецца, радуецца.*

М ы ш . Скажы дзякуй мне, Разалі. Гэта я табе так цудоўна дапамагла. Гэта я прагрызла дзіркі ў тканіне, каб праз іх можна было зазірнуць. Калі б у мяне не атрымалася гэтая хітрасць, я, напэўна, ужо назаўжды страціла б і цябе, і твайго бацьку, і чароўнага Прынца. Але цяпер мне засталося ашукаць цябе ўсяго толькі адзін раз. І вы разам назаўсёды зробіцеся маімі рабамі. Чуеш, ра-ба-мі!.. (*Мыш радасна скача вакол Разалі.)*

Р а з а л і *(спакойна)*. Гэта я ва ўсім вінавата. Каб не мая злачынная дапытлівасць, табе ніколі не ўдалося б прымусіць мяне зрабіць такі дрэнны ўчынак. Я павінна выправіць яго сваімі пакутамі, сваім цярпеннем і нязломнай воляй. Я абавязкова павінна вытрымаць трэцяе, апошняе выпрабаванне, якое б яно ні было. Дый чакаць

мне засталося ўсяго некалькі гадзін. Няўжо я не здолею? Няўжо не вытрымаю? Цяпер, як сказаў чароўны Прынц, ад адной мяне залежыць яго, маё і бацькава шчасце!

Мыш. Ваша шчасце залежыць толькі ад мяне. Зразумела?! Вы ўсе ў маёй уладзе, у маім палоне! Вось дзе вы ў мяне! *(Трасянула кулаком.)*

Разалі. Што хочаш рабі, мярзотная варажбітка, але я адсюль не адступлюся ні на крок. Я павінна яшчэ больш пакутаваць і дакараць сябе за тое, што прымусіла пакутаваць бацьку і Прынца. Свой дзень нараджэння я павінна сустрэць тут.

*На сцэну выходзіць Кабета з куфэрачкам у руках. Мыш хаваецца, убачыўшы кабету.*

Кабета. Ой, дзяўчынка! Мілае маё дзіцятка! Ці не зрабіла б ты мне адну добрую ласку? Ці не магла б ты паглядзець, пасцерагчы мой куфэрачак?.. Але ён вельмі сакрэтны.

Разалі. Пагляджу. Няцяжка.

Кабета. А то мне трэба зайсці да адной сваячкі, каб там вырашыць такія-сякія пытанні. Яна тут недалёка жыве. Але я з куфэрачкам не магу да яе ісці, каб яна не пыталася, што гэта за куфэрачак, што ў ім ляжыць і навошта ён мне. Я не хачу з ёй аб гэтым гаварыць. Таму, калі ласка, мілае дзіцятка, паглядзі за ім. Добра?

Разалі. Пакідайце, пакіньце, цётачка, я панаглядаю. Мне гэта няцяжка будзе. Добра-добра!..

Кабета *(аддае куфэрак Разалі).* Дзякуй, маё мілае дзіцятка. Але вельмі прашу – нікому не паказвай, што

ў куфэрачку. І сама не глядзі, што ў ім ляжыць. Вельмі прашу – не глядзі туды, бо там такое, там такое ляжыць… чаго ты ніколі не бачыла ў сваім жыцці і ніколі не ўбачыш на свеце… Трымай яго ў руках вельмі асцярожна, вельмі далікатна і не стукні нідзе куфэрак. І толькі тады ты ўбачыш, што ў ім ляжыць… Але гэтага ніхто іншы не павінен бачыць. Зразумела, дзіця маё?

Р а з а л і . Так, зразумела, цётачка!

*Кабета выходзіць.*

Р а з а л і *(разглядае куфэрак).* Прыгожы куфэрачак. І што ў ім такое можа быць? А?.. Але якая мне розніца? Ён жа не мой, а той цётачкі, якая мяне папрасіла панаглядаць за ім. А яшчэ яна вельмі прасіла яго не адкрываць… Не буду болей пра яго думаць, а то, сапраўды, захочацца куфэрак паглядзець, адкрыць. Буду лепш чакаць наступнага дня. А калі ён наступіць, мне споўніцца пятнаццаць гадоў, тады я зноў убачу чароўнага Прынца і свайго тату, і мне болей не трэба будзе баяцца паганай варажбіткі.

М ы ш *(з’явіўшыся).* Разалі, Разалі! Я тут! Прабач, калі ласка, я болей табе не вораг. Каб даказаць, што я табе не вораг, магу паказаць табе, што знаходзіцца ў гэтым куфэрку. *(Разалі маўчыць.)* Разалі, ты чуеш мяне ці не? Я ўжо твая сяброўка, я праўду табе кажу, павер мне! *(Разалі маўчыць. Мыш кідаецца да куфэрка і хоча яго выхапіць.)* Дай сюды куфэрак!

Р а з а л і . Не аддам табе куфэрак. Я павінна яго вярнуць цётачцы. Не дам. Пайшла прэч адсюль, нягодніца!

(*Б'юцца між сабой. Разалі піхае варажбітку, і тая падае.)* Ах ты, нягодніца! Калі ты яшчэ раз да яго дакранешся, я скручу тваю пачварную пысу. *(У гэты час гадзіннік прабівае поўнач. Мыш моцна вішчыць.)*

М ы ш . Усё, Разалі, твой дзень нараджэння наступіў! Цяпер табе споўнілася пятнаццаць гадоў. І ты можаш мяне болей не баяцца. З гэтай хвіліны вы ўжо не залежыце ад маіх чараў: ні ты, ні твой агідны бацька, ні брыдкі Прынц. А я назаўсёды застануся агіднаю шэраю Мышшу, пакуль не здолею завабіць у свае пасткі якуюнебудзь іншую, такую ж прыгожую і дапытлівую дзяўчынку, як ты. *(Звяртаецца да гледачоў.*) А можа, у гэтай зале ёсць такія дапытлівыя і прыгожыя дзяўчынкі? А?!.

З а л а  а д к а з в а е . Няма!

М ы ш . Гм!.. Не баяцца мяне! Няма такіх! (*Звяртаецца да Разалі.)* А ты, Разалі, можаш цяпер смела адкрыць свой куфэрак.

Р а з а л і . Не дачакаешся, мярзотніца!

*Мыш падбягае да Разалі, вырывае з рук куфэрак,*
*кідае яго на падлогу, а сама хутка пакідае сцэну.*
*Разалі адварочваецца і затуляе рукамі вочы.*
*Разалі стаіць нерухома. З'яўляецца Каралева фей.*
*Яна падыходзіць да Разалі і кладзе ёй руку на плячо.*

К а р а л е в а . Не плач, Разалі. Не хвалюйся і нікога ўжо не бойся. Ты нарэшце перамагла свайго жорсткага ворага. Ты ўжо вольная і шчаслівая дзяўчынка. Вызвалены таксама ўсе твае родныя і блізкія людзі.

Р а з а л і . Няўжо гэта праўда? Вы – Каралева фей?!.

К а р а л е в а . Так, я і ёсць тая самая Каралева фей.

Р а з а л і . Але ж палац чароўнага Прынца разбураны, а сам ён стаў жабраком…

К а р а л е в а . Не хвалюйся! Усё гэта зроблена дзеля таго, каб праверыць цябе на шчырасць. Таму і здарылася ўсё гэта, каб ты мацней спалохалася сваёй дапытлівасці і не паддалася на яе трэці раз. А цяпер, калі ласка, сустракай сваю сям'ю.

*Каралева падымае руку, і на сцэну выходзяць чароўны Прынц і бацька. Разалі абдымае бацьку, а потым цалуе Прынца.*

П р у д а н . Ну вось і скончыліся нашыя пакуты. Цяпер мы ўсе шчаслівыя, самы час адгуляць добрае вяселле. Міра і шчасця вам, дзеткі! І памятайце: галоўнае ў нашым жыцці сёння – гэта чалавечая дабрыня.

*Усе разам бяруцца за рукі і спяваюць песню.*

Р а з а м :

Зберажом сваё сэрца ад злых,
Каб ніколі з дарогі не збіцца,
Бо надзеі няма на чужых,
А з чужымі так лёгка згубіцца.

*Прыпеў:*

Калі разам да шчасця мы дружна ідзём –
Дабрыня, дабрыня зробіць лепшым жыццё!
Прывядзе нас дарога на родны парог,
Дзе спякуць на вяселле нам смачны пірог!

ЗАСЛОНА.

# Змест

6+

Літаратурна-мастацкае выданне

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

# Верталёт Бабы-Ягі

## П'есы-казкі для дзяцей

Для малодшага школьнага ўзросту

Рэдактар М. А. Беразоўская
Тэхнічнае рэдагаванне і вёрстка В. М. Сакуновай

Падпісана ў друк 20.05.2024 г. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура "Times New Roman".
Ум. друк. арк. 6,97. Ул.-выд. арк. 3,16. Тыраж 300. Заказ № 399.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА "Барк".
Пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі ў якасці выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/190 ад 19.02.2014 г., № 2/46 ад 20.02.2014 г., № 3/584 от 17.03.2014 г.

246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3
Тэл. (0232) 50-68-73, 50-34-71
odobark@yandex.by